PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (2046) ГОД XL БЕЛАСТОК 30 ЛІПЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)

*Ганна Кандрацюк, Мікола Ваўранюк*

## Дрыжэла зямля, млелі паненкі...



*Крыстафор Сяськевіч — саліст гурту "Кардон" — бясспрэчная індывідуальнасць фестывалю.*

— Добры дзень, беларускія сябры, маеце *харэўку?* — падходзілі да снедаючых менчукоў аматары моцнага ўдару і таннай выпівохі.

Над палатачным полем у Барыку пачыналі співаць першыя птушкі. Свежы подых світання будзіў зняможаныя целы, якія так і паснулі ў пяску перад сцэнай, пад дрэвамі, у кустах. Усе яны, абтрасаючы з сябе пыл і сасновыя іголкі, цягнулі да спадзяванай крыніцы „жывой вады”. Патрэбу інтэграцыі зрадзіў перапынак у продажы піва з піваварні „Жывец”.

Больш вопытныя і прадбачлівыя не цярпелі засухі. Нанава перажывалі найбольшыя хіты ночы. З кустоў гарлапанілі:

*Ў Чарнабылю радыяцыя,*
*памірае наша нацыя!*

Гэтаму фаталізму дзейсна пярэчылі шматлікія закаханыя пары. Не спалася таксама жыхарам Гарадка. Яны, як практычныя мястачкоўцы, адразу з канцэртаў падзюрылі па грыбы.

Пачынаўся другі дзень „Басовішча”.

* * *

Сёлетні Фестываль музыкі Маладой Беларусі, які прайшоў 14—15 ліпеня ў Барыку каля Гарадка, быў шосты. Як ніколі, паказалася на ім многа маладых гуртоў. Асаблівых уражанняў не пакінулі. Нават такіх, як гайнаўскія „Szwejo” і „Awaria”. Першы гурт два гады таму пасылаў публіку „на х...”, а другі летась праспяваў сваю версію народнай песні: „Я прышоў, тэбэ нэма, аж ты к... е...”. У гэтым годзе месца „Szweja” замяніў „Nostradamus” і нікога не абразіў, бо іх пякельны рык быў звычайна нудны. „Awaria” перахрысцілася ў „Progress”, якога ў іх музыцы, на жаль, не заўважалася. Усё ж такі, брыдкія словы са сцэны прагучалі. Менская „Крама”, заінспіраваная гайнаўлянамі, напісала песню „Чыжоўка”, якая — паводле слоў лідэра гурту Ігара Варашкевіча — „выконваецца матам”. Але тут быў ужо іншы, як той казаў, тэкст і кантэкст, ну і „Крама”, перш за ўсё, умее граць.

З маладых вылучаўся бельскі гурт „Zdrowie na budowie B”. Пару гадоў таму да арганізатараў „Басовішча”



*Перад сцэнай.*





*Ад музыкі дзяўчаты млелі...*



*Аж дрыжэла зямля...*

падышлі два маладзенькія хлапчукі і заявілі, што яны хочуць зайграць на сцэне. Папрасілі, каб да вечара перакласці словы іх песень на беларускую мову. Арганізатары пасмяяліся між сабою, а хлопцам параілі паспрабаваць праз год. Многія на іх месцы абразіліся б, але гэтыя хлопцы з Бельска настаялі на сваё і на „Басовішча” вярнуліся са шчытом.

Бясспрэчным адкрыццём сёлетняга фестывалю стаў „Кардон”. Лідэр гурту **Крыстафор Сяськевіч** сваю музыку назваў: *нацыянальны рок-праўда.* Асаблівую ўвагу прыцягваюць словы іхніх песень, большасць з якіх піша сам Крыстафор. Вядомая ўжо „Айчына-маці травой зарастае” ў новай апрацоўцы стала яшчэ больш унушальнай. „У Чарнобылі радыяцыя”, як класічны пратэст-сонг, адклікалася на бягучыя палітычныя падзеі ў Беларусі. Перакаваўча гучаць у іхнім выкананні, — без трафарэтнасці, — і песні на словы Ларысы Геніюш ці Юльяна Тувіма („Мурынак Бамба” ў перакладзе). „Кардон” уражвае непасрэднасцю і натуральнасцю. Нават іхняя мова, родам з-пад беластоцкіх Засцянак, прыдае ім аўтэнтычнасці. Цікава, што ў гурце, апрача Крыстафора, адны палякі.

Расчаравалі славутасці. „Палац” не падрыхтаваў нічога новага. „Белы сон” выразна лепш адчувае сябе ў больш камерных умовах. Аб гэтым маглі пераканацца ўдзельнікі „Бардаўскай восені”. Памылкай было запрашэнне менскага „Гаю”, які не можа рашыцца на ўласны стыль. Адно „Мроя”, хаця выступала без Лявона Вольскага, дала, як звычайна, добры канцэрт. На жаль, выступала яна каля трэцяй раніцы, калі многія ўжо прыснулі.

Найбольш перад канцэртамі рэкламаваны беластоцкі рок-гурт „Who? The Gnoye” (чытайце: „Худэ гное”) па-за самай назвай нічым асаблівым не вылучыўся. Праўдападобна адну песню праспявалі нават па-беларуску.

Англамоўны гурт з Менска „Тарнада” выконвае гард-рок. Ад іх магутнага ўдару дрыжэла зямля, млелі паненкі, а ахоўнікі выкручвалі юнакам рукі, якія на месцы настаўлялі кастапраўы з ЗБМ.

— Будзе балець, — асцерагалі пры гэтым.

— Нічога, я выпіўшы.

„Тарнада” ў першую ноч і даканала публіку.

* * *

Суботні канцэрт, без удзелу чарады пачаткоўцаў, быў класны. Нялёгкае заданне мела гарадоцкая „Брага”, выступаючы між „Крамай” і „Улісам”. Калі зайграла „Крама”, а яшчэ пазней „Houk” з Варшавы, паднялося на ногі ўсё „Басовішча”. А было на ім больш за тры тысячы людзей. У натоўпе сустракаліся жыхары самых далёкіх куткоў Беласточчыны. Мы чулі, што Орля і Мілейчыцы ў той час зусім апусцелі з моладзі.

„Басовішча” гэта амаль адзіная рок-імпрэза, на якой надрэнна гуляюць і старэйшыя. Цэлаю раднёю сядаюць на траве, рассцілаюць абрус, дастаюць соленыя гуркі і... гуляй душа!

— Наша „Басовішча” ўжо амаль як Яроцін, — горда паўтаралі мясцовыя між кускамі вэнджанай каўбасkі.

Гарадок святкаваў. Людзі спецыяль-

*Працяг на стар. 4*

# Лячэнне зёлкамі і травамі

13 ліпеня г.г. з'явілася ў Плёскі, а дакладней кажучы, у адзін з асяродкаў адпачынку над ракой Нарвай, група (звыш 40 чалавек) дзяцей з Мінска на лячэбны адпачынак. Апекуном групы і лекарам з'яўляецца **Яўген Шмерка** — прэзідэнт Дзіцячага процiалергiчнага фітацэнтра ў Мінску. Яўген Шмерка вядомы ўжо нашаму чытачу са Старыны ў гміне Дубічы-Царкоўныя, калі ў мінулым годзе праходзіла там сваё лячэнне група дзяцей з Салігорска. Магчыма, чытач памятае, што ў сувязі з гэтым у Дубічах мела ўзнікнуць фундацыя „Жыццё", мэтай якой мела быць пастаяннае супрацоўніцтва з Беларуссю ды прыём дзяцей на лячэбны адпачынак у гэтую гміну круглы год. Фундацыя аднак не ўзнікла і выглядала, што справа з лячэннем беларускіх дзетак на Беласточчыне канчаткова заглухне.

Знайшоўся на Беласточчыне адзін такі чалавек — **Ян Мордань** з Рыбалаў (актуальны грамадскі статус: беспрацоўны) — які не паддаўся ды шукаў іншых шляхоў падтрымкі для гэтай ідэі ды толькі што наладжанаму кантакту. Нагода ўзнавіць гэты кантакт з'явілася, калі нарваўскаму прадпрыемству „Пронар" (мантаж трактароў) забракавала трактарных элементаў. Доктар Я. Шмерка займаўся якраз лячэннем дзяцей працаўнікоў Мінскага трактарнага завода. У выніку перамоў атрымалася дамова — Мінск дастаўць у Нарву неабходныя для мантажу элементы, а нарваўскае прадпрыемства забяспечыць фінансавы бок лячэння беларускіх дзетак у нас. Базай выбраны быў асяродак адпачынку „Нарва" ў Плёсках.

У першых днях пасля таго, як уся група пасялілася ў асяродку было крышку ўскладненняў, выкліканых незвычайным характарам „турыстаў".

— Мы не прыехалі сюды адпачываць, — сцвердзіў Я. Шмерка, — а працаваць. Нам неабходныя не толькі пасцелі для спання, але і асобнае памяшканне, дзе можна абследаваць дзяцей, рыхтаваць ім лякарствы і гэтаму падобнае.

У час, калі адведаў я малых пацыентаў у Плёсках, іхнія апекуны (з доктарам Шмеркай прыехала таксама двух педагогаў і адзін культасветнік) вялі знятужлівае змаганне за канчатковае ўладкаванне фармальных аспектаў побыту ўсёй групы. Выявілася, што банк, які абслугоўвае асяродак, не ў змозе праводзіць замежныя аперацыі.

Што ж, трэба толькі спадзявацца, што ўсе такія ўскладненні не знеахвоцяць доктара Я. Шмеркі да прыездаў на Беласточчыну.

Яўген Шмерка з'яўляецца сусветна прызнаным спецыялістам у галіне фітатэрапіі (лячэнне зёлкамі і травамі). Як сам сцвярджае, на гэты шлях накіравала (чытай: прымусіла) яго само жыццё. Яго першая прафесія мела дачыненне да ядзернай хіміі. У 1958-61 гадах Я. Шмерка працаваў ліквідатарам на АЭС „Чэлябінск-40" (аварыя на АЭС была ў 1957 годзе). На пытанне, што такое ліквідатар і чым ён займаецца, Я. Шмерка адказаў:

— Ліквідатар гэта *профессия особого риска*. Доўгі час улада не прызнавала нам нашага статуса. Мы проста не існавалі для грамадства. У апошні час Масква прызнала, што людзі такія ёсць (*паказвае сваю спраўку — А. М.*), але Мінск надалей замаруджвае з прызнаннем нам гэтага статуса. Калі ідзе пра маю працу, дык, найкарацей кажучы, дапамагаю цяпер выжыць нашчадкам іншых ліквідатараў.

Паводле Я. Шмеркі ў былым Савецкім Саюзе пры жыцці засталося 700 ліквідатараў — лік іхніх нашчадкаў ацэньваецца на 50 тысяч. Я. Шмерка, аўтар звыш ста сарака публікацый з галіны фітатэрапіі, збірае таксама матэрыял у кнігу прысвечаную ліквідатарам ды іншым *профессиям особого риска* — рабочы загаловак кнігі: „Успаміны атамных салдат". Усё гэта, сцвярджае доктар, нагадвае вялікі эксперымент, у вырашэнні якога не дапаможа нам ніхто акрамя нас саміх, але ўсе з зацікаўленнем будуць прыглядацца ці справімся мы з гэтым і як справімся.

Узрост некаторых захворванняў у Беларусі мае супольную крыніцу — зніжэнне імунастатуса (абарончай сілы арганізма). Прычым, зніжэнне гэтае датычыць не толькі жыхароў радыяцыйных зон, але ў той жа меры закранае і жыхарства забруджаных прамысловых раёнаў. Ключом да аздараўлення, паводле Я. Шмеркі, з'яўляецца прырода. Знаходзяцца ў ёй усе неабходныя фактары дзеля таго, каб ачысціць арганізм ад атруты. Таблетачнае лячэнне, хоць хуткае і часта знакамітае ў выніках, мае аднак нецікавую перспектыву. Чалавек, вызвалены ад адной хваробы, праз нейкі час, не ведаць чаму, пачынае хварэць чымсьці іншым — гэта і ёсць тое, што часам называем пабочным уздзеяннем фармакалогіі. Хваробы, кажа Яўген Шмерка, выкліканыя недахопам у арганізме самых простых элементаў. Усе яны знаходзяцца ў прыродзе і, што найважнейшае, ва ўласцівай прапорцыі.

— Вывучы гэта, працягні руку і ты будзеш жыць, — кажа Яўген Шмерка.

Гучыць гэта банальна, але вывучэнне зёлак і траваў — цяжкая дысцыпліна, зараз жа прызнае Я. Шмерка. Фітатэрапія ў Беларусі толькі пачынае развівацца, пры медыцынскіх інстытутах адкрываюцца яе факультэты, а яго, Я. Шмерку, часта запрашаюць туды выкладаць прадмет. Доктар Шмерка заўважыў пры нагодзе, што польскі „Herbapol" уяўляе вельмі высокі ўзровень прадуктаў — пад прыгожай упакоўкай высакаякасны і вартасны змест. Калі ідзе пра зёлкавую прамысловасць, дык з Польшчай можа раўнніцца Нямеччына, дзе ўзровень гэты яшчэ вышэйшы, і Літва.

У Плёсках, як і мінулым разам у Старыне, малыя пацыенты доктара Шмеркі пяройдуць тэрапію, у час якой будуць любавацца прыродай, чыстым асяродзем, будуць піць усялякія гарбаткі і настоі з зёлкаў, якія сабяруць у час сваіх экскурсій. Яўген Шмерка ўпэўнены, што вынікі будуць такімі ж знакамітымі, як і папярэднім разам. Дарэчы, правільнасць сваіх метадаў лячэння ён даказаў на сабе самім — пасля трох гадоў выконвання *профессии особого риска* ў Чэлябінску сам жыве, мае сям'ю і дзеці.

**Аляксандр Максімюк**

# ТЭЛЕБАЧАННЕ І БЕЛАРУСЫ

14 ліпеня ў рэдакцыі „Нівы" адбылася сустрэча кіраўніцтва Польскага тэлебачання з Беларускім саюзам у Рэчы Паспалітай. Сярод гасцей былі: намеснік старшыні Управы суполкі „Telewizja Polska S.A." Януш Дашчынскі, дырэктар Бюро лакальных аддзелаў тэлебачання Тамаш Семоняк і дырэктар Беластоцкага аддзела „Тэлевізійнага кур'ера ваяводстваў" Пётр Гарбарчык. Беларускі бок прадстаўлялі старшыня Саюза Яўген Вапа і сакратар Управы Юрка Каліна. Прысутнічаў у сустрэчы таксама пасол Сейма РП Артур Смулка.

Першыя кантакты Беларускага саюза і кіраўніцтва тэлебачання наладзіў Яўген Вапа ў канцы студзеня г.г. лістамі Веславу Валендзяку і Анджэю Заорскаму, у якіх запатрабаваў пастаянных перадач на беларускай мове ў будучым Рэгіянальным тэлевізійным цэнтры ў Беластоку. Прэзас Валендзяк 13 сакавіка, пасля кансультацый з Управай суполкі „TVP S.A" і Краёвай радай па справах радыёвяшчання і тэлебачання адказаў, што прапановы Яўгена Вапы лічыць сэнсоўнымі і запрасіў дэлегацыю Беларускага саюза да перамоваў наконт выпрацоўкі канцэпцыі такіх перадач.

Размовы вяліся больш за тры месяцы. Дэлегацыя кіраўніцтва тэлебачання, якая ў нашай рэдакцыі сустракалася з уладамі Беларускага саюза, паінфармавала, што напачатак будуць рабіцца толькі 10-хвілінныя перадачы раз у месяц. Пашырэнне эфірнага часу, пакуль што, немагчымае з увагі на тэхнічныя абумоўленасці. Больш беларусы Беласточчыны пра сябе і свае справы змогуць пабачыць і пачуць тады, калі пачне працаваць Беластоцкі тэлевізійны цэнтр. А гэта можа быць не раней як у 1996 годзе.

рэд.



Управа Рады Міністраў

Шаноўны спадар Марэк Бароўскі

Беларускі саюз у Рэспубліцы Польшча, выконваючы ролю каардынатара пачынанняў беларускіх арганізацый у адносінах да адміністрацыйных, самаўрадавых, культурных і асветных улад, выказвае спадзяванне, што вярхоўныя дзяржаўныя ўлады прымуць прыхільнае беларускай меншасці і ўсім вернікам праваслаўя рашэнне і перададуць манастыр у Супраслі Праваслаўнай царкве.

Манастыр у Супраслі ў гісторыі беларускага народа і яго духоўных здабыткаў з'яўляецца важкім элементам. Гэта дзякуючы манастыру развівалася беларускае друкаванае слова і фарміравалася нацыянальная тоеснасць.

Думаем, што передача манастырскіх будынкаў Праваслаўнай царкве будзе прыкладам канстытуцыйнай роўнасці ўсіх грамадзян перад законам.

Беласток, 1995.07.11

Старшыня
Беларускага саюза
Яўген Вапа

## У Сідранскай гміне
## Камп'ютэры для школы

Улады гміны Сідра купілі вучням Пачатковай школы ў Сідры сем камп'ютэраў, друкарку ды іншае абсталяванне для камп'ютэрнай залы. Апрача таго, яны забяспечылі школу спартыўнымі прыладамі, між іншым трэнажорам „Атлас" і іншымі.

Школа ў Бярвісе ўзбагацілася тэлевізарам, а ў Маеве — радыёапаратурай. Пачатковая школа ў Яцаўлянах будзе мець уласны сцяг.

## Мундзіры для пажарнікаў

Гмінныя ўлады не забываюць пра членаў добраахвотных супрацьпажарных камандаў (ОСП). Рада гміны купіла між іншым мундзіры для пажарнікаў з Сідры. У чэрвені гэтага года купілі ім таксама другі супрацьпажарны самаход. Апрача таго сфінансавалі яны рамонт пажарнага аўтамабіля для каманды ў Яцаўлянах.

## Бібліятэчная справа

Публічная бібліятэка ў Сідры існуе ад 1949 года. Першапачаткова знаходзілася яна ў прыватным памяшканні. Першай кіраўнічкай была Дамініка Беламыза. Ішлі гады і змяняліся бібліятэкаршы. Вось іх прозвішчы: Галена Кімбаровіч, Данута Гутоўская, Яніна Астапчык, Цаліна Кондрат і Анна Зязюля. У 1977 годзе бібліятэка значна ўзбагацілася кнігамі. Працаваць у бібліятэцы пачынаюць Малгажата Каліноўская (зараз Вайтулевіч) і Галена Галіцкая. У 1981 годзе на працу прыходзіць Анна Сідар і ў 1983 годзе — Галена Каленік (зараз Равінская).

У 1983—1990 гадах гмінная бібліятэка мела тры філіялы і шэсць бібліятэчных пунктаў — у Юрашах, Рацэве, Сідэрцы, Снічанах, Шастаках і Звяржанах.

У 1991 годзе былі ліквідаваны два філіялы і ўсе бібліятэчныя пункты. Працуе адзін філіял — у Маеве.

Гмінная публічная бібліятэка ў Сідры ды яе філіял у Маеве маюць 569 чытачоў. У Сідры маюць яны 10 950 кніжак і ў Маеве — 6 300. У 1994 годзе бібліятэка купіла 633 новыя кніжкі за 36 мільёнаў 740 тысяч злотаў, перш за ўсё мастацкай і дзіцячай літаратуры. У бібліятэчнай чытальні ёсць энцыклапедычныя выданні, а таксама дзве хронікі — Зямлі ды XX стагоддзя. Можна тут пачытаць дзевяць газет і часопісаў.

Самымі актыўнымі чытачамі з'яўляюцца між іншым Анна Груша, Аля Данілевіч, Магда Грыгевіч, Руская Схітчына і Агата Трахім, Кася і Агнешка Новік, Юстына Шымуль і Віялета Нарушэвіч (сярод дзяцей і моладзі), а таксама Ірэна Скібіцкая, Данута Надольная, Ян Бароўскі, Анна Рэкець, Аліцыя Грыгевіч, Галена Бароўская, Люцына Кузьміцкая, Кшыштаф Самойлік і Рамуальд Варанко. Зараз сідранская бібліятэка знаходзіцца ў памяшканнях тамашняй Гміннай управы.

**Янка Целушэцкі**

P.S. У Сідранскай гміне пражываюць беларусы. Даволі часта даводзіцца пачуць іх размову на вуліцы. У тамашнім кіёску можна купіць „Ніву" — у мінулым тыдні паставілі пяць экзэмпляраў.

# Летапіс Віленскай беларускай гімназіі

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

Каб процідзейнічаць антыўрадавым і прасавецкім настроям у Віленскай беларускай гімназіі, польскія адміністрацыйныя школьныя ўлады пачалі з 1930 года браць школу пад сваю большую апеку. З прыватнай стала яна дзяржаўнай, а ў выніку страціла самастойнасць і як філіял была далучана да польскай гімназіі імя Ю. Славацкага. І хаця гімназія далей была аддзельнай і дырэктарам у ёй працаваў Радаслаў Астроўскі, але заглядаў сюды і меў вока на ўсё дырэктар гімназіі імя Ю. Славацкага. Статус дзяржаўных атрымалі таксама абодва гімназічныя інтэрнаты: для хлопцаў у паслябазыльянскіх мурах, якім кіраваў Міхась Шчасны і для дзяўчат па вуліцы Садовай, якім загадвала Грышкевічовая.

Не ўдалося мне ўстанавіць прозвішчы першых дырэктараў гімназіі і настаўнікаў. Ведаю, што да дырэктарства Радаслава Астроўскага працавалі там нейкі час ксёндз Адам Станкевіч і д-р Янка Станкевіч. У 30-х гадах настаўнікамі працавалі Алёна Лекант, Анцукевіч, браты Ільяшэвічы (старэйшы памёр у 1934 г. і пахаваны на праваслаўным могільніку на Ліпоўцы), А. Егер, С. Касінская (полька, настаўніца польскай мовы), Барыс Кіт, айцец Кульчыцкі, ксёндз д-р Ст. Глякоўскі, Пётр Шчасны, Глухоўскія (муж і жонка, вучылі гісторыі, па нацыянальнасці палякі, але да беларусаў, так як і Касінская, ставіліся вельмі прыхільна і моладзь іх шанавала). Хорам кіраваў і спеваў вучыў Кароль, а заняткі па фізкультуры вёў Невядомскі.

У 1934 г. польскія ўлады закрылі Беларускую гімназію ў Навагарадку і вялікая частка моладзі перанеслася ў Віленскую беларускую гімназію. У сувязі з гэтым узніклі складанасці як гаспадарча-адміністрацыйнай, так і педагагічнай натуры. Віленская гімназія мела гуманістычны профіль, а навагарадская — матэматычна-прыродазнаўчы. Разам з навагардскімі вучнямі ў Вільню пераехала настаўніца нямецкай мовы Русак, якую моладзь называла „Няняй”, мабыць таму, што яе моцна любілі. Настрой у гімназіі не быў ужо такі бурлівы, чым раней, але дух быў цвёрда беларускі. Вучні гаварылі выключна па-беларуску. Вясковая моладзь у сацыяльным і нацыянальным плане была больш радыкальная ад гарадской і праяўляла варожае стаўленне да ўрада. Гэты настрой часта хлопцы вылівалі ў песні „Пад гоман вясёлы”.

*Пад гоман вясёлы, пад звон чары поўнай,*
*Пры зборы усіх нас бяседы такой,*
*Успомнім жа брацця аб долі няроўнай,*
*Аб усіх тых, што церпяць за край родны свой.*

*У Познань і Кракаў, ў далёку чужыну*
*У няволю пасланы, як быццам навек,*
*Бацькоў сваіх кінуў і мілу дзяўчыну,*
*Сам церпіць і холад, і голад, і здзек.*

*Збялеўшаю твар'ю прыліпшы да краты*
*Ён зоркі шукае у небе начным,*
*Каб думкі занесла да роднае хаты,*
*Каб кліч перадала усім братам сваім.*

*Змагайся мой дружа з наезнікам панскім,*
*Змагайся за лепшую долю сваю,*
*Змагайся за лепшую долю, свабоду,*
*Хоць цяжка змагацца, а ўсё ж зможаш ты.*

Такой песні я не сустрэў у друку і прыводжу яе з памяці. Я не ўпэўнены, ці гэта поўны тэкст.

Любімымі песнямі дзяўчат былі „Люблю наш край”, „Ціха і плаўна ўдаль коцяцца воды” і „Зорка Венера”. Гімназія арганізавала ўрачыстасці ў гонар 25 Сакавіка. Польскія ўлады, асабліва г.зв. „двойка”, ведалі аб настроях у гімназіі і стараліся закінуць або шантажом ці матэрыяльнымі карысцямі здабыць інфарматараў. Усё гэта выклікала ў моладзі насцярожанасць і замкнутасць.

У пачатку 1935 г. група вучняў VII класа дамовілася арганізаваць пры гімназіі скаўтынг. Дэлегацыя, якую ўзначалілі браты Кастусь і Лявон Паўлі, узгодніла свой намер з Віленскай харугвай Польскага гарцэрства. Гарцэрскія ўлады падтрымалі ініцыятыву моладзі і не пярэчылі, каб моладзь карысталася поўнай аўтаноміяй, сваёй мовай, камандай і значком. Ініцыятыўная група распрацавала прынцыпы беларускага скаўтынгу, беларускую каманду, уніформу, значок ды ўстанавіла клічку: „Будзь гатоў!” Пачаліся запісы добраахвотнікаў. Намер стварыць беларускі скаўтынг усхваляваў моладзь. У некаторых, аднак, з'явіўся недавер і падазронасць, ці гэта не будзе нейкая штучка польскіх улад ці дырэктара Астроўскага. Гэтая частка моладзі паставілася да скаўтынгу насцярожана, а нават варожа. Нягледзячы на такое стаўленне часткі вучняў, лік скаўтаў у гімназіі павялічваўся. Спачатку ўзніклі тры атрады з самых хлопцаў. У наступных гадах у скаўтынг сталі запісвацца і дзяўчаты, асабліва з ніжэйшых класаў. Дружына Беларускага скаўтынгу разраслася.

Арганізатары Беларускага скаўтынгу мелі больш шырокія планы. У сітуацыі, калі ўрад ліквідаваў апошнія беларускія арганізацыі, планавалі яны перакінуць ідэю скаўтынгу ў глыбінку, абняць ёю ўсю беларускую моладзь і пад шыльдай скаўтынгу стварыць беларускую маладзёжную арганізацыю. Аказалася гэта, аднак, толькі летуценнем. Малады беларускі скаўтынг не меў сваіх фінансавых сродкаў, ніякай падтрымкі, а толькі горы перашкод і варожасці. Засталося ўсё на працы ўнутры дружыны з прысвеннем асноў гэтай ісціны і з выхаваннем у духу беларускага скаўтынгу, а звонку — на прадстаўніцтве беларускай моладзі пры розных нагодах.

У паслябазыльянскіх мурах, побач Віленскай беларускай гімназіі, размяшчалася Праваслаўная духоўная семінарыя. І хаця ў абодвух школах вучылася моладзь з аднаго краю і адной веры, то дружбы паміж імі не было. Мабыць таму, што ў Семінарыі пераважаў кансерватыўны рускі дух, а мабыць і таму, што семінарысты заляцаліся да гімназістак, а гімназістам гэта не падабалася. Семінарыстаў прызывалі „кашаедамі”, відаць з-за таго, што ў іхнім інтэрнаце часта кармілі кашай.

У 1937/38 школьным годзе пасаду дырэктара гімназіі пакінуў Радаслаў Астроўскі, а на яго месца назначаны быў выкладчык латыні Анцукевіч, якога моладзь празывала „Бэатус”. У такім стане беларускую гімназію ў Вільні застала вайна.

*(заканчэнне будзе)*

**Віктар Ярмалковіч**

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXXI. І выстаялі, і перамаглі

Некаторыя нашыя родныя браты і сёстры, звонку зламысна падбухтораныя варожымі сіламі, раптам адкаліліся ад сваё спрадвечна адзінакроўнай сям'і і, замест супольна дзейнічаць дзеля абароны нашай веры праваслаўнай, захавання ды развівання свае мовы, культуры і традыцыі, пайшлі ў прымакі на суседаву гаспадарку. Што ж, відаць, абрыд ім, хоць і аржаны, але ўсё ж свой хлеб, пацягнула іх на чужыя пшанічныя пірагі ды караваі. Але наша ж народная мудрасць напамінае такім перабежчыкам: **Прымацкі — хлеб сабацкі, а На чужы каравай рота не раззяўляй!** І праўда ж, у гэтым годзе ў Пярэмышлі сустрэлі іх зусім не хлебам ды соллю, але петардамі ды „кактэйлямі Молатава”. Ледзь з духам яны з тае гасціны выскачылі. І хто там ведае, ці ў наступным годзе не чакае іх там яшчэ гучнейшае павітанне...

І тут мне прыгадалася светлая постаць Івана Вішанскага, глыбокашанаванага таксама на ўкраінскай, як і на беларускай зямлі. Нарадзіўся Іван Вішанскі каля 1550 г. у Судовай Вышні каля таго ж Пярэмышля. Невядома, хто быў яго бацькамі і дзе ён вучыўся. Упершыню людзі пачулі пра яго як пра *Іоанна инока з Вишне*. Манаскі послух, мабыць, нёс у адным з львоўскіх манастыроў, а затым пайшоў на Святую Гару Афон. Там спачатку прабываў у манастырах, потым стаў пустэльнікам, пасяліўся ў пячоры. Прысвяціўшы сябе посту і малітве, інак Іаан усё ж не забываў пра трагічнае становішча праваслаўных у тагачаснай Рэчы Паспалітай. Са свае самотні ён кіраваў лісты-звароты (усіх вядома 17) да праваслаўных Рэчы Паспалітай, паддаючы знішчальнай крытыцы ворагаў нашай веры і заклікаючы вызнаўцаў Праваслаўя да стойкасці, непахіснасці, і вернасці сваёй роднай Царкве. Ужо сам загаловак першага ягонага паслання *Извещение краткое о латинских прелестех* (перад 1588 г.) раскрывае яго змест („латинские прелести” — „каталицкие спакусы”). *У Послании до всех обще в Лядской земли живущих* (перад 1596 г.) Вішанскі пісаў, што цяпер у Лядскай (г.зн. Польскай) зямлі няма ні веры, ні надзеі, ні любові, ні праўды, няма ў ёй месца не ахопленага грэшнай немаччу: *все струп, все рана, все пухлина, все гнилство... все лжа, все мечтание, все сень, все пара, все дым, все суета, все нищета... суще нест ничто же.* Асуджаў ён паноў за прыгнёт простых людзей: „Вы дани пенежные, дани пота и труда, от них вытягаете, от них живо лупите, обнажаете, мучите, томите”, а па Святому Пісанню ўсе людзі роўныя ж і свабодныя. У *Послании к утекшим от православное вери* (1597—1599), *Обличении диавола-миродержца* (1599-1600), *Краткословном ответе Пятру Скаргу* (1600—1601) і іншых сваіх творах І. Вішанскі абараняў праваслаўных ад наступу каталіцызму, які з усіх сіл намагаецца знішчыць не толькі ўсё праваслаўнае, але і ўсё „рускае”, гэта значыць украінскае і беларускае. Караля Зыгмунта III Вазу як творцу і абаронцу уніі ён назваў „диаволом-миродержцем”. Асуджаў адступнікаў ад Праваслаўя епіскапаў-уніятаў, да уніяцкага духавенства звяртаўся: *Нашто імем хрыс-*

*Працяг на стар. 8*

# З дзённікаў С. Яновіча

**1992—08—08.**

Даведваюся з *Нівы* пра смерць Аляксея Карпюка (ад рака страўніка). Прыгожым міні-эсэ ўспомніў яго Алесь Чобат. У маёй жа памяці Карпюк застанецца не толькі як неблагі пісьменнік, але і трагічны камуніст, які — амаль да канца — верыў, што гэту ідэалогію магчыма ачалавечыць. Ну і як адзін з галоўных *акцёраў справы Яновіча*, несвядомага сваёй страшнай ролі, бо неяк натхнёна наіўнага, даверлівага да людзей. Хавалі яго годна, як выдатнага сына нацыі.

Учора наведалася да мяне — у асістэнтуры сваяцкіх Младзяноўскіх з Кляшчэляў — маладзенькая Сафія, дачка Міколы Прускага, выдаўца *Беларускага Сьвету* ў ЗША (прывезла мне ад свайго бацькі трохі медыкаментаў, хаатычна падабраных). От, збольшага разумее яна па-беларуску, аднак *ны чытаты, ны пысаты*; поўная амерыканка з яе. Для жарту запытаў я Сафійку, ці хацела б яна тут пажыць. — О, по, по! — быў адказ.

**1992—08—10.**

Сёння Праграмная Рада *Нівы* ухваліла Геніка Міgriановіча галоўным рэдактарам часопіса; у тайным галасаванні атрымаў ён сем галасоў з трынаццаці магчымых. Ледзь прайшоў — адным голасам усяго — што здзівіла, відаць, не толькі мяне (Рада ж амаль з адных маладых, акрамя мяне, Яся Чыквіна і Юшчука; ага, яшчэ Шведа). Чатырох устрымалася, а двух было супроць (...). Барацьбы за пасаду не было; плата, вось, сярэдненькая на ёй, а абавязкаў больш, чым калі-небудзь (...). Ідэявікоў нямашака?..

Спачатку, увесну, трохі прапаноўвалі мне гэту работу, але я выглумачыў, што час майго пакалення прамінуў. Цяжка было б паразумецца з калектывам рэдакцыі, у якім пераважна хлопцы і дзяўчаты ў гадах маіх сыноў або і маладзейшыя. Прытым стан *Нівы* блізкі чытацкай катастрофы. Каб рэанімаваць часопіс не хапіла б у мяне здароўя, ані лішніх гадоў (я ж набліжаюся да шасцідзесяці).

Перверсійна прыемна ўразіла мяне на сённяшнім пасяджэнні — Генік, а з ім Алег і Макс адкінулі маю прапанову быць кансультантам. (...)

Самы гарачы дзень — пішу перад 20-ай гадз., а тэмпература ўсё яшчэ +30. За акном сварыцца паляцтва.

**1992—08—18.**

У суботу і нядзелю (15 і 16-га) гасцяваў у маім доме ў Крынках *Рэйд мастадонтаў*: Сельвясюк і Пякарскі з жонкамі, іх сваячка (Валіка?), Латышонак і Іванюк. Прыехалі роварамі з Супраслі, у паабеддзе. Увечары далучыўся да іх Лёнік (на сваёй машыне *Нива*). Гэта дзякуючы яму было па-гітарнаму весела. Намагаўся і я, але кандыцыі ў мяне ўжо не тая. Таня найбольш напрацавалася, нарыхтаваўшы смачнай ежы на выбар (трохі дапамагала ёй мая маці). Спёкі шчасліва не было; вада ў басейне, куды пайшлі купацца, аказалася нават халодная і я крыху застудзіўся (боль у шыі).

Смутак ад гэтага *Рэйду мастадонтаў* не адзін той, што нікому не хацелася сур'ёзнай размовы, а кожны ахвотна маўчаў. Глядзеў я на гэтых дзяўчатаў і хлопцаў, што перастаюць быць маладымі, і адчуваў: самае важнае яны зрабілі, прыдаўшы размаху беларускаму руху тут, а далей будуць паўтараць самі сябе... За імі — Зьвяз Беларускай Моладзі. Таго асяроддзя я зусім не ведаю; тыя хлопцы мне, як унукі быццам.

— З Лёнікам нешта няздобрае адбываецца, старэе ён проста ў вачах, хоць захоўвае кардыяльную жвавасць. Чую, спіць мала, есць абы-як; бывае, два разы ў суткі ездзіць у Варшаву (...). Так жыць — гэта хутка згарэць. — Трыццаціпяцігодкі. Здаецца, што, усё яшчэ акрамя Лёніка, вельмі пастарэлі яны; без ранейшай радасці дзейнічаюць. Чагосьці бракуе ім... Веры ў сябе? Інтэлігентнага асэнсавання сітуацыі? Гняце тыповы бедным фаталізм? Няма лідэра?

**1992—08—20.**

(...) *Голас Радзімы* ад 6-га перадаў значныя фрагменты *Паміж ілюзіяй і абсурдам* Геніка Міrановіча (паводле публікацыі ў *Czasopisie*). Неблагі аналіз нашага ідыятызму, набліжэння нашай нацыянальнай катастрофы ў Беластоцкім Краі.

*(Працяг будзе)*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Гурт „Пронар" на сцэне

У час Свята беларускай культуры на беластоцкай сцэне выступілі дзеці з Нарвы. Звярталі яны асаблівую ўвагу гледачоў сваімі новымі строямі.

Нарваўскія спевакі выступаюць пад назвай „Пронар". А гэта таму, што прадпрыемства „Пронар" з Нарвы — гэта іх апякун. На кожным беларускім аглядзе нарваўскія спевакі выконваюць беларускія песні. Сярод іх ёсць дзеці польскай і беларускай нацыянальнасцей. На польскіх мерапрыемствах юны „Пронар" спявае, зразумела, польскія песні.

**Г.К.**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**




## Касьба і жніво

У канцы чэрвеня пачыналася ў сялян самая гарачая пара. Ад „Пятра" на лугах ужо ляжалі зялёныя пракосы. А касьба абавязкова павінна была закончыцца да свята Ільі. У народзе так гаварылі: „Прыйдзе Ілья — наробіць гнілля". Пагодныя дні — неабходная ўмова для касьбы, таму касцы звычайна спявалі:

Касцы косяць,
Бога просяць:
— Ой, дай, Божа, пагоданьку
Ды на нашу работаньку.

У некаторых месцах Гродзеншчыны існаваў такі звычай. Калі з'яўляўся на луг гаспадар, які наняў касцоў, яго звязвалі вяроўкай, звітай з травы. З гэтага жартоўнага палону ён павінен быў выкупіцца грашыма.

А жніво на Беларусі было, вядома, яшчэ больш важнай падзеяй. Гэта пацвярджаюць спецыяльныя абрады: пакрыванне поля, зажынкі і дажынкі. Кожны селянін імкнуўся як мага хутчэй пачаць жніво, каб жыта не пераспела. Жалі звычайна жанчыны і дзяўчаты, а таму і ў жніўных абрадах удзельнічалі выключна яны адны.

Раніцай, да ўсходу сонца, ішла на поле маладзіца і ў прысутнасці некалькіх дзяўчат нажынала невялікі снапок жыта і, абвіўшы яго ручніком або полкай новага палатна, падкідала, прыгаворваючы:

Пакрыла ніўку
На добрую спажыўку;
Парадзі, Божа,
Наша збожжа!..

Потым маладзіца і дзяўчаты ішлі дамоў ці да гаспадара, чыё поле пакрывалі. Пры ўваходзе ў хату спявалі, аддавалі снапок гаспадыні. Тая адорвала іх грашыма. Затым падыходзілі з паклонам да гаспадара. Гаспадар частаваў жнеек і запрашаў на зажынкі. Тым і заканчвалася пакрыванне поля.

Праз два дні рабілі зажынкі. Вечарам, на заходзе сонца, гаспадарова дачка разам з сяброўкамі, спяваючы, адпраўлялася на поле. Гаспадыня ім давала з сабой яечню, сыр і гарэлку. На полі дзяўчаты сілкаваліся, зразалі па каласку, звязвалі невялікі снапок-гаспадарок, акраплялі яго гарэлкай і, спяваючы, адпраўляліся дамоў.

Увайшоўшы ў хату, гаспадарова дачка з паклонам падавала снапок-гаспадарок бацьку. Той, падкінуўшы снапок, ставіў яго на покуці пад абразы. Пад снапок клаў чатыры медныя манеты і кланяўся, затым гаспадары частавалі дзяўчат і запрашалі іх на дажынкі. Увесь абрад зажынак суправаджаўся песнямі.

Цікава праходзілі дажынкі. На Віцебшчыне, напрыклад, заканчваючы жытняе жніво, адна частка жней, зрэзаўшы жменю жытніх сцяблін з каласамі, пачынала звіваць з іх вянок. У той час астатнія садзіліся на зямлю і спявалі. Першая з пявунняў прысядала на кукішкі перад знарок пакінутым на полі кустом аржаных сцяблін з каласамі, яго палола, затым сцябліны звязвала ля самых калоссяў, што і звалася „барадой". У сярэдзіну куста клалі акраец хлеба і соль. Усё гэта дзеянне называлася „завіваннем барады".

Затым жнейкі з песнямі адпраўляліся дамоў. Калі на шляху ім траплялася добра знаёмы чалавек, то зачынальніца надзявала яму вянок, а жнеі вакол „палонніка" спявалі песні да таго часу, пакуль ён не даваў выкуп — грошы ці якую-небудзь рэч.

Жнеек дома сустракаў гаспадар. Дзяўчаты надзявалі гаспадару на галаву вянок, а гаспадар запрашаў іх у хату, дзе яшчэ ў сенях іх вітала гаспадыня, трымаючы ў руках гарэлку, хлеб, соль, сыр. Калі гатова была вячэра, то адразу садзіліся за стол. І не толькі жнеі, але ўсе, хто ў хаце прысутнічаў.

На дажынкі пяклі бліны і да іх падавалі масла, мёд. Акрамя таго, варылі вельмі густую кашу, каб і пасевы на другое лета былі такія ж густыя. Таксама смажылі або варылі паряся, пяклі яечню і частавалі гарэлкаю.

*(Валянціна Раманцэвіч, „Пачаткі роднае мовы")*



*"Сена". Мал. Каміллі Лабузінскай, вучаніцы IV класа Пачатковай школы ў Кленіках.*

## Вершы Віктара Шведа

### ТРЭБА ЕСЦІ КРАПІВУ

Пачула Ната наяву,
Што трэба есці крапіву.
Карысна есці безупынна,
Бо ў крапіве шмат вітамінаў.

Узбуджаная надта Ната
Прыбегла хуценька да таты:
— Тата, я не хачу калючак,
Паколюць горла мне балюча.

### ГАДЗІННІК З ЗЯЗЮЛЯЙ

Гасцінны Янка і Марыля
Гадзіннік Наце падарылі.
А ён нязвыклы, усе чулі,
Куе ў ім слаўная зязюля.

Прысела Нацейка ў куточку
І ўсё чакае галасочка.
— У прадшколле не пайду, матуля,
Пакуль не закуе зязюля.

### МОРА БЕЗ ВАДЫ

Летняй парою з мамай, татам
Прыехала у Мора Ната.
Яна здзівілася тады:
— А што ж за мора без вады?

І нервавацца стала дужа:
— Няма тут нават малой лужы.
Пацешыла Наташу маці:
— Вада ж у кране ў Ніны хаце.

### У грыбы

Мы ў грыбы далёка едзем,
дзе жывуць ваўкі, мядзведзі.
Але страху ў мяне мала,
бо са мною разам мама.
Для калматых бурых мішак
сабяру яловых шышак.
І ваўку гасцінец маю —
хлеба лустачку трымаю.
Каб не крыўдзілі звяры,
пачастунак у бары
я для іх усіх пакіну
і збяру грыбоў карзіну.

### Якое лета ў дзеда?

Было лета Ганніна,
было лета маміна.
Цяпер бабінае лета.
А якое лета ў дзеда?

**Ала Канапелька**

## ЗАГАДКІ

Сіняе палатно —
канца-краю не відно.
Ледзьве трошачкі
заднее —
палатно пачырванее.
Адгадаць адно
тут трэба:
як яно
завецца?
.........

* * *

З-за бору,
з-за рэчкі
у сінюю грэчку
без броду —
не ў шкоду!—
пабеглі авечкі.
Следу не пакінулі,
зніклі, нібы згінулі.
Падаліся ў шлях далёкі
з краю нашага
............

* * *

Ног не мае,
а бяжыць.
Не сядзіць.
І не ляжыць.
Камень стрэне —
пераскочыць.
Як не зможа —
трошкі збочыць.
Мо спыніўся б!
Выбачай!
Не спыняецца
...........

**Артур Вольскі**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

## Пік-Пік у казіно

Калі мышка Пік-Пік разам з мамай і Веранічкай хадзіла ў госці да мамінай знаёмай цёткі, то з вакна цётчынай кватэры відаць была вельмі прыгожая рэклама нейкай установы. Рэклама свяцілася мноствам каляровых лямпачак, агеньчыкі міргалі, пераліваліся, перабягалі з месца на месца, утвараючы карцінку: дзядзька ў пінжаку, з гальштукам-матыльком падымаў і апускаў чарку, а над ім свяціліся літары: *Казино „Эльдарада"*. Абодва словы нічога не значылі для мышкі. Але яна з зайздрасцю назірала, як сытыя мужчыны заходзілі ў шыкоўныя дзверы пад руку з худзюшчымі даўгалыгімі дзеўкамі і выходзілі пасля такія вясёлыя, задаволеныя... Папыталася мышка ў мамы, што то за „казіно"? Але мама там ніколі не бывала, таму магла адказаць толькі прыблізна:

— Ну, гэта такое месца, дзе п'юць, ядуць... Танцуюць... Ах так, там яшчэ гуляюць у розныя гульні... І ўвогуле — знайшла чым цікавіцца! Каб пра што карыснае папыталася! А то — у казіно захацела!

Мама яшчэ доўга нешта гаварыла, то абураючыся, то скардзячыся на жыццё, а мышка адразу ж уявіла сабе: шмат сталоў з рознымі смачнымі стравамі і напоямі, музыка, танцы, гульні з мячыкамі ды скакалкамі... Дзіва, што людзі выходзяць адтуль такія задаволеныя!

Канешне, мышка наважылася пайсці ў гэтае „казіно". Будынак знайшла лёгка, а пасля без асаблівых цяжкасцей пранікла за шыкоўныя дзверы, хаваючыся за нагамі нейкага дзядзькі, абутага ў новенькія чаравікі з вялікімі абцасамі. І тут Пік-Пік разгубілася. Ледзь паспявала ўцякаць ад шматлікіх ног то ў туфліках на небяспечна высокіх „шпільках", то ў каўбойскіх чаравіках з металёвымі цвічкамі. Вакол шум, тлум, музыка ёсць, але страшна нават уявіць, як пад такую музыку танцуюць... І тут мышчын нос улавіў пах ежы. Так, ежа тут была! І вось, кіруючыся на пах, трапіла мышка на сапраўдную кухню. Тут таксама было тлумна і шумна, але колькі тут рыхтавалася смакоцця! Толькі злаўчылася мышка ўскочыць на стол з падносамі, на якіх былі раскладзеныя піражныя, як нехта закрычаў:

— Мыш! Хутчэй лавіце, пакуль кліенты не ўбачылі! Гаспадар даведаецца, што мы мышэй развялі, пазвальняе ўсіх!

Што тут усчалося! Ніколі не была мышка такой блізкай да свайго канца. Яе ганялі шчоткамі, венікамі, лупілі па ёй скручанымі ручнікамі... Цудам удалося мышцы выслізнуць праз нейкую шчыліну на вуліцу.

Ужо дома, седзячы ў норцы, Пік-Пік змагла па-філасофску асэнсаваць здарэнне.

— Вось што такое прыватнае прадпрыемства! — зазначыла разумніца. — Хіба ганялі б мяне так у звычайнай сталоўцы ці на кухні таго дзіцячага садка, куды Веранічка хадзіла два тыдні. У, клятыя, капіталісты!

Вось з такой чыста чалавечай высновай мышка і спачыла пасля цяжкога працоўнага дня.

**Людміла Рублеўская**

# Палюбіць урокі гісторыі



*Храбалоўскія дзеці з настаўніцай Ірэнай Матус.*

„Зорка" размаўляе з настаўніцай гісторыі ў Храбалах, **ІРЭНАЙ МАТУС**, аўтаркай кнігі „Стральцы-Давідовічы".

**Зорка:** — *Многія вучні з Храбалоў сказалі мне, што вельмі любяць вашыя ўрокі гісторыі. У чым сакрэт вашага поспеху?*

**Ірэна Матус:** — „Няма вялікай гісторыі без малой гісторыі" — такая вось мая галоўная думка наконт вывучання гэтага прадмета. Найперш вучня трэба зацікавіць. Вядома, што кожны найбольш перажывае ўласныя справы. Мы вывучаем гісторыю праз прызму мінулага свайго найбліжэйшага асяроддзя. Дзеці пытаюць сваіх бабуль і дзядоў пра іх жыццё, пра продкаў, знаходзяць усякага роду дакументы, здымкі, пасведчанні, граматы. Такія пошукі спрыяюць эмацыянальнаму перажыванню гісторыі. Многія прыносяць свае знаходкі і могуць пра гэта расказаць іншым. Пазней намнога лягчэй зразумець агульную гісторыю народа.

— *У гістарычнай зале я заўважыла вельмі цікавую насценную газету?*

— „Газетку" зрабілі самі вучні. Прадстаўляе яна гістарычныя дакументы Бельскай зямлі ў XIX ст. Тут бачым не толькі партрэты, сямейныя здымкі, але і пасведчанні на расейскай мове, бо тады нашыя продкі хадзілі ў царскую школу. І калі дзеці ведаюць, што гэтыя дакументы належалі канкрэтным асобам, маюць уяўленне пра іншасць нашай спадчыны.

— *Тут сутыкаецца гісторыя Польшчы і гісторыя Беларусі. Ці лёгка прыблізіць і растлумачыць вучням складанасці нашай роднай гісторыі?*

— Вельмі цяжка, але трэба гэта рабіць, бо няма іншага выхаду. У нашай школе вучацца дзеці беларускай і польскай нацыянальнасцей. Іх трэба перш за ўсё **вучыць талерантнасці**. І ў адной, і ў другой гісторыі трэба паказваць карысныя моманты. Адначасова трэба гаварыць пра ўсе негатыўныя з'явы. Гэтага не можна скрываць.

— *Ці ў нашых школах патрэбны такі прадмет — гісторыя Беларусі?*

— Такі прадмет, зразумела, неабходны. У іншым выпадку мы ніколі не перастанем саромецца сваёй нацыянальнасці. На маю думку гэты прадмет таксама важны як навучанне роднай мовы. Бо калі мы не ведаем сваіх карэнняў, тады цяжка знайсці перакананне, што трэба хадзіць на родную мову.

— *Ці ў пачатковай школе вучні цікавяцца гэтым?*

— У гэтым узросце маладыя людзі, асабліва ў старэйшых класах, ставяць сабе шмат пытанняў, на якія без ведання гісторыі немагчыма адказаць.

— *Шкадую толькі, што ў пачатковай школе ў мяне не было такой, як вы, настаўніцы. Дарэчы, вашая вучаніца Марта Алексяюк з VIII класа заваявала I месца ў прадметнай алімпіядзе беларускай мовы.*




*Вучні VI класа на фоне гістарычнай насценгазеты.*

## Увага, чарговы конкурс!

Усе дзеці і моладзь могуць напісаць пра лёс сваёй сям'і, паводле расказаў дзядоў ці бацькоў. Самыя цікавыя працы будуць апублікаваны. Дадам, што „Зорка" установіць спецыяльныя ўзнагароды для пераможцаў. А галоўным прызам будзе ўдзельніцтва ў міжнацыянальных сустрэчах „Паграніччa'96".



# Дзеці з Чаромхі

Малгажата Шымчук, Тамаш Кердалевіч і Рафал Раманюк — вучні Пачатковай школы ў Чаромсе. Усе яны вельмі любяць беларускую мову. З гэтага прадмета атрымалі шасцёркі.

— Нам вельмі падабаюцца беларускія казкі, песні, а асабліва сцэнічныя творы, якія часта вывучаем, — прызналіся дзеці.

Зараз самая прыемная пара на працягу года — канікулы.

— Канікулы маглі б трываць цэлы год, — сказалі Рафал і Томак.

**З-ка**
**Фота Міколы Ваўранюка**

# Гісторыя праваслаўя ў Белавежы

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

Новую царкву пабудавалі з чырвонай цэглы, якую вырабіў на месцы немец з Горнай Сілезіі Юльюш Карл Мілер. Фундамент у яе з часаных камянёў знойдзеных у Белавежскай пушчы. Храм вянчаюць два купалы, з якіх адзін быў прызначаны на званіцу. Дах пакрыты памаляванай на чорна бляхай. Іканастас выкананы з кітайскага фарфору, прывезенага з Пецярбурга. Аддзелачныя працы закончыліся ў 1897 г. перад візітам у Белавежу цара Мікалая II. Кошт пабудовы царквы склаў 54 тысячы рублёў.

У той час у прыходзе на сродкі прыхаджан працавалі дзве рухомыя школы граматы ў Тэрамісках і ў Пагарэльцах. У 1900 г. вучылася ў іх разам 45 вучняў. Апрача таго ў Белавежы дзейнічалі дзве міністэрскія школы: мужчынская (Аляксандраўская) з 114 вучнямі і жаночая з 67 вучаніцамі.

У 1900 г. прыход налічваў 2 315 вернікаў з наступных вёсак: Стачок, Застава, Падаляны, Пагарэльцы, Тэраміскі, Прыбудкі (сённяшнія Буды).

У 1908 г. царква атрымала дазвол Гродзенскай кансісторыі на закладку электрычнага асвятлення. У 1911 г. на сродкі апякунства закуплены былі харугвы.

У 1912 г. з могільнікавай капліцы ўкралі крыж, Евангелле, крыж на падстаўцы і медную складную падарожную ікону.

Да выбуху I сусветнай вайны настаяцелямі прыхода былі айцы: Чайкоўскі, Парфеній Базылеўскі, Ян Якубоўскі, Кірыла і Міхал Шырынскія і коратка Аляксандр Гележа.

Да 1900 г. прыход падлягаў Літоўскай епархіі, затым (да 1915 г.) — Гродзенскай.

У жніўні 1915 г. праваслаўнае жыхарства Белавежы эвакуіравалася ў глыб Расіі. Вывезена было тады аснашчэнне царквы, у тым ліку і звон вагою ў 125 кг, якога гучны голас даходзіў, пры спрыяльным надвор'і, нават на ўзбярэжжа Белавежскай пушчы. Трапіў ён у Ніжні Ноўгарад. Іканастас быў пазбаўлены ікон, царскіх і дыяканскіх варотаў.

Падчас I сусветнай вайны рэлігійнае жыццё ў Белавежы спынілася. У прыхадскім доме на нейкі час усталявалася вайсковае праўленне пушчы.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў белавежскія прыхаджане ў большасці вярнуліся ў свае моцна знішчаныя, а нярэдка спаленыя сядзібы. Царква, на шчасце, ацалела.

У міжваенны перыяд храм быў адрамантаваны. Папоўнене было яго надта ж беднае аснашчэнне. Вернікі купілі невялікі звон, пашырылі на 1 гектар могільнік.

У канцы 1924 г. прыход налічваў 2 133 вернікаў з гэтых жа самых вёсак, што і да вайны ды яшчэ з Хвойніка. Напярэдадні II сусветнай вайны лік прыхаджан павялічыўся да звыш 5 000 чалавек.

У міжваенны перыяд прыходам на пачатку адміністравалі айцы Апалінары Кастэньчык і Мікалай Ежыкоўскі. Абавязкі душпастыра часова выконваў Лявонцій Канькоўскі. У 1924 г. настаяцелем стаў а. Ян Скальскі. Яго наследнікам застаўся ў 1931 г. а. Уладзімір Цэхан. У маі 1939 г. прыход абняў а. Клаўдзій Пушкарскі. Як потым выявілася — на цэлыя 40 гадоў! г.зн. да пераходу ў 1979 г. на пенсію.

З трагізмам вайны белавежскія прыхаджане сутыкнуліся ўжо 1 верасня 1939 г., калі з нямецкага самалёта на Белавежу ўпалі бомбы, з якіх дзве папалі ў царкву. Адна ўзарвалася звонку храма, другая ўнутры. Пашкоджанні аказаліся вялікія.

Падчас г.зв. савецкай улады, з увагі на яе вядомыя адмоўныя адносіны да рэлігіі, нельга было адбудаваць знішчаную царкву. Мала бракавала, а бýбы выдадзены загад разабраць яе! Айца Пушкарскага ў той час часта выклікалі ў сельсавет на допыты, падчас якіх у адносінах да яго прымянялася насілле. Набажэнствы звычайна адпраўляліся ў могільнікавай капліцы, да якой дабудавалі прытвор.

Адбудова храма пачалася толькі падчас нямецкай акупацыі. Дазвол на правядзенне прац выклапатаў у мясцовых акупацыйных улад сам а. Клаўдзій Пушкарскі. Працы пачаліся 1 чэрвеня 1943 г. і працягваліся чатыры з паловай месяца. Кіраваў імі царкоўны стараста Ян Смактуновіч. Урачыстае пасвячэнне адбудаванага храма адбылося 17 кастрычніка 1943 г. Кошт адбудовы склаў суму 33 тысяч нямецкіх марак. Грошы галоўным чынам паходзілі з царкоўнай касы і сабраны былі сярод вернікаў белавежскага і навакольных прыходаў, а таксама з датацыі Управы Гродзенскай епархіі.



*Аўтар артыкула прымае з рук мітрапаліта Васілія прысвоены яму з нагоды 100-годдзя белавежскай царквы ордэн св. Марыі Магдаліны II ступені.*

Гады нямецкай акупацыі запісаліся ў памяці прыхаджан таксама масавымі экзекуцыямі мясцовага і навакольнага насельніцтва. Адно з месцаў пакарання смерцю немцы ўладкавалі ля ўваходa на царкоўны пляц. У 1942—43 гадах на дрэвах, якія тут растуць па сённяшні дзен, немцы павесілі звыш 90 чалавек.

Пагроза паўторнага знішчэння толькі што адбудаванага храма ўзнікла 16 ліпеня 1944 г., калі двух нямецкіх жаўнераў задумалі ўцягнуць на званіцу цяжкі кулямёт, каб магчы лепш абстрэльвацца перад наступаючымі савецкімі атрадамі. На шчасце а. Пушкарскі здолеў пераканаць немцаў і тыя адступілі ад свайго намеру.

У першыя гады пасля заканчэння ваенных дзеянняў, у царкве ў купале былі намаляваны выявы евангелістаў. Крыху пазней царкоўны пляц адгарадзілі ад вул. Стачок (зараз ген. А. Вашкевіча) цэментава-каменным мурам.

У 1974 г. купілі новы звон вагою ў 35 кг.

У 80-х гадах на царкоўным пляцы было закладзена электрычнае асвятленне, а храм унутры аднавілі. Царкве прыдбалі таксама акумуляцыйныя печкі, дываны, выкладку, жырандолі, змянілі таксама дах на капліцы, што пры вул. Спартовай і грунтоўна яе аднавілі.

У апошнія гады прыхадская царква зноў перайшла капітальны рамонт. Змянілася пакрыццё даху, паставілі новыя вокны ў купале, праклалі новыя электраабсталяванне і громаадвод. Быў пакладзены новы тынк на вышыню цокалю, праведзена частковa рэстаўрацыя паліхроміі. Адрамантавана таксама прыхадскі дом і могільнікавую капліцу, папраўляючы ў ёй дах і абнаўляючы ўвесь будынак. У 1992 г. царква атрымала асцерагальную сігналізацыю, на другі год такую ж сістэму правялі і ў могільнікавую капліцу.

У пасляваенны перыяд белавежскі прыход час ад часу наведваюць высокія саноўнікі Праваслаўнай царквы з усяго свету, а таксама прадстаўнікі духавенства іншых веравызнанняў. Пастаяннымі гасцямі з'яўляюцца штогод удзельнікі Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы. Традыцыяй ужо стала, што некаторыя хоры, якія прымаюць удзел у фестывалі, даюць у белавежскім храме спецыяльныя канцэрты.

Вялікай папулярнасцю карыстаецца храм у турыстаў. Для многіх з іх гэта першае сутыкненне з праваслаўем наогул.

Прыход штогод прымае ўдзельнікаў маладзёжных лагераў, арганізаваных духавенствам іншых прыходаў або Брацтвам праваслаўнай моладзі, якое з 1989 г. мае свой дом на ўскраіне Белавежы, пераабсталяваны зараз у падрыхтовачна-адпачынковы асяродак.

Пасля выхаду на пенсію ў 1979 г. а. Клаўдзія Пушкарскага, на белавежскі прыход быў назначаны а. Сяргей Корх, які служыць настаяцелем па сённяшні дзень.

Зараз прыход налічвае 1 500 вернікаў з размешчаных на Белавежскай паляне вёсак — Грудкоў, Пагарэльцаў, Тэрамісак, Будаў і Чарлянкі.

З 1946 г. Белавежскі прыход уваходзіць у Гайнаўскі дэканат Варшаўска-Бельскай епархіі.

Прыхадскія святы адзначаюцца 22 мая (св. Мікалая) і 14 кастрычніка (Пакроў Божай Маці).

**Пётр Байко**
**Фота са збору аўтара**




*БАРЫС РУСКО*

### З розумам

Ці лёгка адысці
  ад сябе
  і ад свету,
  і быць без сэрца
  і без роспачы.
Ці лёгка пагасіць
  агонь
  і сонца,
  і скінуць ношу
  з плячэй
  і думак.
Ці лёгка забіць дзверы
  ў мінулае
  і збудаваць сцяну
  на жывым целе,
  і крыж узнесці
  па-над усё.
Ці лёгка чалавекам быць
  у віры зла
  і бегчы з розумам
  за гарызонтам.

### Марш Мендэльсона

На парозе ў белым вэлюме
марш Мендэльсона.
А вэлюм з валакна імглы,
а твар, як кветка,
што заўтра згасне.
Благаслаўленне спее паволі
ў халодных далонях,
з акна хвілін сцякаюць ціха
слёзы маці.

### Паражоўванне карціны

Аблокі густыя вісяць нада мною
і сеюць кроплі, як арэхі праўды.
Не відаць сонца,
толькі сны негасцінныя
на ўсёй дарозе.
Кожны мазок жую асобна
і пасля кропкі стаўлю свечку.

### Глыбіня пустыні

Адлічваю час на пустыні,
дзе агонь — нішто,
і холад — нішто,
дзе свецяць двудушныя зоркі,
дзе камяні, як цюлені лянівыя,
дрыхнуць.
Адлічваю час на чыстай пустыні,
дзе чужая нага не стаяла,
а трывога, як цень, крадком уцякае,
дзе ты ярчэйшы, чым белы круг сонца,
дзе голас уласны — чыстая праўда,
дзе думкі сціснуты да разумення,
дзе на парозе ўмірае рэха.

### Непаслухмянасць

Гавару,
  а ўсё маўчыць,
як маўчаць думкі
непачатыя.
Прашу,
  а ўсё глухое,
як глухая ноч
на краі свету.
Заву,
  а дзверы зачынены,
і ўсё спіць,
як спіць розум
вычарпаны.
Крычу,
  а крык мой нямы,
і ўсё паўзе ў свае бакі.

### У нямой кашулі

Калі ўцякае ноч з-пад зямлі,
тут сонца на хвіліну спыняе свой дых,
а птушка крылом зацямняе зрок,
а воблака ў воку неба — слязой,
а золак на каленях ля ложа твайго.
У нямой кашулі смерці. Учапілася
ў карані пушчы.

### Асенняя дарога

З плячэй гор струменяцца
  серабрыстыя косы,
а жоўты ліст у абдымках ветру
ціхутка цягне старую песню,
а багна дзікае ашчэрыла гнілыя
зубы на пузатыя хмары.
Паблеклі вочы дзён
і сонца мучыцца заўчасна,
а ўсютка, як і год таму,
бяжыць намечаным маршрутам.
Толькі зямля крыху пасівела.

# НАШЫ КАРАНІ

*Працяг са стар. 5*

*ціянскім бессаромна асмельваецца сябе называць, калі сілы гэтага імені не захоўвае?* А пра уніяцкіх духоўных вяльможаў Вішанскі пісаў: *Няхай будуць пракляты (уніяцкія) уладыкі, архімандрыты, ігумены, якія манастыры (праваслаўныя) спустошылі і фальваркі сабе з месцаў святых парабілі, самі са слугамі сваімі і прыяцелямі ў іх цялеснае і жывёльнае жыццё праводзяць, на месцах святых лежачы, грошы збіраюць з даходаў, прызначаных багамольцам Хрыстовым... а ў манастырах праўдзівых манахаў няма, замест песнапення і малітвы сабакі выюць,* — вось да чаго даводзяць уніяты!

Чытаючы творы Івана Вішанскага, выдатнага абаронцы Праваслаўя і нашых народаў — украінскага і беларускага, — здаецца, што яны адрасаваны да ўсіх нас, цяпер жывучых, хоць і пісаліся 400 гадоў таму назад. Вялікі гэты прапаведнік не дзяліў нас, але яднаў перад абліччам вялікай небяспекі для ўсіх нас, праваслаўных, для ўсіх нас — і ўкраінцаў, і беларусаў, і расіян. Яго чыталі і да яго слоў уважліва прыслухоўваліся тады і на Украіне, і на Беларусі, і ў Маскоўскай Русі. І знаходзілі ў яго мудрасці натхненне для яднання ў абароне свае зямлі, веры і культуры... і выстаялі, і перамаглі... бо інакш ні ўкраінцаў, ні беларусаў, ні рускіх даўно ўжо не было б.

**Мікола Гайдук**

# Прарок сярод сваіх

*(Лук., 4:22—30)*

У 4-м раздзеле Евангелля паводле Лукі прыводзіцца інцыдэнт, які здарыўся ў сінагозе ў Назарэце. Прачытаўшы тэкст прароцтва пра Месію, Хрыстос зачыніўшы кнігу заявіў: „Цяпер выпаўнілася пісанне гэтае ў вушах вашых". Здзіўленыя людзі пыталіся адзін у аднаго: „Ці ж не Язэпаў гэта сын?" Прэтэндэнта на славу Збавіцеля яны бачылі і ведалі ад дзяцінства. Бачылі як працаваў з бацькам у майстэрні; ведалі братоў і сясцёр. Хаця ніхто не мог прыпомніць пра яго нічога дрэннага, усё ж такі прытваралца Абяцаным Месіяй мог толькі яўны блюзнерца. Чалавек, які нарадзіўся ў беднасці і паходзіў з нізкага стану, не мог быць кімсьці іншым як звычайным чалавекам. Гэтак думалі назаране і, чытаючы ў іхных думках, Хрыстос сказаў ім: „Ніводзін прарок не прымаецца ў Бацькаўшчыне сваёй. (...) Многа ўдоў было ў Ізраілі ў дні Ільі... і да ніводнай з іх не быў пасланы Ілья, толькі да ўдавы ў Сарэпту Сідонскую. Многа было таксама пракажоных у Ізраілі пры прароку Елісею і ніводзін з іх не ачысціўся апрача Неемана Сірыйца. Пачуўшы гэтае, усе ў сінагозе напоўніліся вялікай злосцю і выгналі Яго вон з горада".

Напомніўшы прысутным пра дадзенае паганцам благаславенства, Ісус выклікаў уздым нацыянальнай годнасці і ягоны голас заглушыла агульнае замяшанне. Людзі ганарыліся тым, што жывуць згодна з законам і цяпер, калі былі закрануты іхныя забабоны — іхнае самазадавальненне — былі гатовы нават на забойства. Яны пачулі пра сябе горкую праўду, што адышлі ад Бога і страцілі права называцца выбраным народам. Случачоў абурыла, што выявіліся менш годнымі ласкі, чымсьці паганцы. Іхнае няверʼе было прычынай таго, што Ісус здзейсніў вельмі мала цудаў сярод іх. У такой сітуацыі з антыпатыяй пакінуў ён горад, каб ніколі болей не вярнуцца да яго.

Быць прарокам у сваёй Бацькаўшчыне вельмі цяжка. Выдатны прафесар ці слаўны чалавек у сваёй вёсцы застанецца толькі тым Коляй ці Юркам, які пасвіў кароў. Святар таксама амаль ніколі не працуе ў роднай мясцовасці, бо не будзе мець там аўтарытэту.

Згаданае Евангелле паказвае таксама, што наша пазіцыя ў вачах Божых, насуперак нашым уяўленням, не залежыць ад нашага нацыянальнага або канфесійнага статуса, але ад таго, які мы зрабілі з гэтага ўжытак. Паганец, які ў адпаведнасці са сваімі паняццямі выбірае дарогу праўды, будзе збаўлены за жыццё згоднае з законам свайго сэрца. Вернікі розных канфесій лічаць сябе найлепшымі хрысціянамі, называючы іншых ерэтыкамі ці адшчапенцамі. Не бачаць толькі, што апрача назвы не маюць чым пахваліцца. Для прыкладу: у Італіі, вельмі каталіцкай краіне, забойствы і крадзяжы палохаюць нават пілігрымаў у Ватыкан. У Румыніі — пераважна праваслаўнай краіне, статыстычна найбольш на свеце абортаў, не кажучы пра іншыя грахі. У Польшчы, таксама каталіцкай краіне, быў вельмі паказальны эпізод. Кардынал Вышынскі звярнуўся ў пасляваенныя гады да прэзідэнта Берута з заўвагай, што палякі надта многа пʼюць і трэба было б супольна змагацца з гэтым бедствам. У адказ Берут сказаў: „Чаго ж вы хочаце. Гэта ж вашы вернікі пʼюць, бо 90% палякаў — гэта католікі".

У Евангеллі ёсць апавяданне пра тое, як Хрыстос пракляў фігавае дрэва, бо не прыносіла плёну. Гэтая перасцярога адрасуецца ўсім цэрквам і ўсім вернікам, якія, загледзеўшыся на сябе, дбаюць пра пышнае лісце, толькі не прыносяць плёну.

**а. Канстацін Бандарук**

# Дэпутаты падурэлі, ці якое ліха?

Ад вякоў ведаем і мусім цярпець, бо такі наш лёс, ды нікуды не дзенемся ад раз абранай „праўды", што народ патрэбны цванікам толькі тады, калі тыя ж цванікі хочуць стаць дэпутатамі ў Сейм, або выйграць вайну на сваю карысць. Тады яны міленькія, прылюдныя, зычлівыя і надта ж культурныя. А калі ўжо дасягнуць задуманае, дык тады ўжо не толькі ім абыякавы гэты народ, але пагарджаюць ім, як збродам.

Калі хочуць заняць дэпутацкія крэслы ў Сейме, тады едуць у народ, нават у самую адлеглую вёску. А калі ўжо атрымаюць патрэбную колькасць галасоў ды дэпутацкія прывілеі і імунітэты недатыкальнасці, тады, о, го, го! — Мы мусім ім кланяцца і не падыходзіць блізка, бо іхнія прыслужнікі нас прагоняць.

Не выказваюся беспадстаўна. На беластоцкім небасхіле паявілася зорка ў асобе Уладзімежа Цімашэвіча, які ўсё рабіў, каб запасціся як найбольшай колькасцю патэнцыянальнага электарату. І яму гэта ўдалося.

Калісьці я меў справу да галоўнага рэдактара „Газеты тыгаднёвай" і, нічога не ведаючы, зайшоў. Калі толькі адчыніў дзверы, пачуў: „Прошэ нам не пшэшкадзаць, бо мы се пшыготоуемы до спотканя пана посла Цімошэвіча!" Гэта так загучэла, як бы ўбачылі мяне з вязкай гранатаў у руках. Я адышоў бы нейкі нахабнік і падумаў, што нам яшчэ вельмі далёка да хаця б элементарнай культуры. Цяпер ужо, калі набліжаецца новыя выбары, думаю, рэдка хто аддасць голас за Цімашэвіча з віны ягоных прыслужнікаў і яго самога.

Я ніколі нідзе аб гэтым не гаварыў, бо і сам быў ягоным прыхільнікам, хаця інтуітыўна адчуваў ягоную самаўпэўненасць, а я гэтага не люблю. І так яно, як многа чаго, прайшло б без рэха, калі б не інцыдэнт, які здарыўся 2 ліпеня г.г. у Ягуштове на фэстыне.

Заехаў я, як запрошаны „белавежац", са сваёй жонкай, на сваёй машыне на гэты фэстын і ўязджаючы на панадворак, дзе меў ён адбыцца, хацеў свой самаход паставіць у цені ля якогасьці іншага аўтамабіля замежнай маркі з варшаўскай рэгістрацыяй. Калі толькі заглушыў матор і выйшлі мы з самахода, на мяне напала з крыкам шлюбная пара былога дэпутата Шафранца. Так мяне лаялі і крычалі, што я злякаўся, што ад майго самахода да іхняга перабягае нейкая халера або іншая зараза, і яны гэта ўсё бачаць. Жанчына падбегла за мужам пад мой нос і мусіць хацела трахнуць мяне па зубах. Але затрымалася, бо я са спакоем і, здаецца, тактоўна сказаў: „Прошэ паньства, по цо тэн кшык і авантура? Мне выстарчы поведзець, жэ ту ставаць не вольно і я одʼядэ. О цо ту ходзі?" Я сеў у машыну і пад іх музыку адʼехаў. Я нават не ведаў хто гэта. Давedaўся я пасля зусім выпадкова, што гэта пан Юзэф Шафранец з жонкай так сябе паводзяць. Такіх людзей не выхавае ніхто, акрамя бяды.

Апісваючы гэтыя здарэнні, я не хачу сказаць, што ўсе дэпутаты аднолькавыя і трэба іх аднолькава трактаваць. О, не! На гэтым культурным мерапрыемстве былі і такія дэпутаты, якіх трэба паставіць у іншую шарэнгу — Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі. Яны зусім іншага складу і культуры. Падчас фэстыну дэпутат Сяргей Плева нават пакінуў сваё месца, каб павіншаваць Міхася Хмялеўскага з яго 70 гадавінай з дня нараджэння. С. Малішэўскі таксама падышоў да нас і мы гутарылі як роўны з роўным. І вось, калі надыдуць чарговыя выбары, трэба будзе звярнуць увагу і на чалавечнасць кандыдата ў дэпутаты, бо гэта мы іх выбіраем, а не яны нас, і няхай не забываюць, што яны нам ласку не робяць. Тым болей не робіць нам ласку якісьці там Шафранец.

**Васіль Петручук**

# 7-я нядзеля пасля Пяцідзесятніцы

*(Матф., 9: 27—35)*

Евангельскае чытанне гэтай нядзелі зачэрпнута з 9-га раздзела Евангелля паводле Матфея. У ім чытаем пра аздараўленне Хрыстом двух сляпых і нямога. Аздараўленні хворых у Евангеллі згадваюцца амаль у кожным раздзеле. Кожнае з іх мела нейкі павучальны сэнс. Пакуты і хваробы людзей былі для Хрыста нагодай давесці да ведама людзей прычыны бедаў, раскрыць іхны глыбейшы змест. У свядомасці тагачасных людзей хваробы і беды лічыліся пакараннем за грэх. Аднойчы на пытанне: „Ці зграшыў сам хворы, ці ягоныя бацькі?" Хрыстос адказаў аднак: „Ні ён, ні бацькі ягоныя, але каб выявілася на ім сіла Божая".

Пытанне пакутаў — адвечнае. Хваробы і гора, паражэнні і нястачы — сумная заканамернасць людскога лёсу. Чалавек журыцца аб сваім трагічным лёсе не толькі таму, што ён невыносны. Ён неадноічы ўспрымае свае беды як незаслужаныя, несправядлівыя і непатрэбныя. Шматлікія людзі адносяцца да Бога як да печы: зімою грэюцца пры ёй, а ўлетку нават не глянуць у той бок.

Тым часам Бог не абяцаў нам бестурботнага жыцця. „У свеце журботныя будзеце, а памятайце, што я перамог свет", — сказаў Хрыстос. Няверуючаму цяжка адказаць на пытанні чаму пакутуюць нявінныя дзеці, чаму здараюцца жахлівыя катаклізмы і войны, у якіх пакутуюць тыя, што не мелі на іх уплыву?

Можна паспрабаваць адказаць гэтак: баліць, каб звярнуць увагу на хваробу; выбухаюць жахлівыя войны, каб людзі ў рэшце рэшт усведамілі сабе вартасць міру; існуе смерць, каб людзі даражылі жыццём. Можна адказаць і гэтак, але хрысціянін шукае адказу на гэтыя пытанні ў глыбіні сваёй веры. Менавіта, можа ёсць нейкі невядомы нам Божы план; можа пакута — гэта адзіны сродак, каб выратаваць у чалавеку тое, што найбольш каштоўнае: ягоную несмяротную душу. Пакуты могуць быць выявай Божай рукі на мармуры душы: калі б камень мог, напэўна стагнаў бы і скардзіўся, але калі б скульптар шкадаваў камень, не зʼявіўся б цудоўны твор мастацтва.

У штодзённым жыцці бачна, што здаровыя, маладыя, моцныя людзі звычайна легкадумныя і пустыя. Каб спакарнелі, трэба даць ім адчуць чалавечую нязначнасць, патрэбна нейкае выпрабаванне, небяспека або нястача, каб зразумелі свае памылкі, каб прабудзіліся ў іх вышэйшыя пачуцці. Памыснасць і дабрабыт робяць чалавека плыткім, нячулым на патрэбы іншых, падчас калі пакуты вучаць пакоры і спагады да іншых.

Людзі пераважна бунтуюцца супраць усякага гора, але былі таксама людзі, якія добра разумелі яго сэнс. Блажэнны Аўгусцін пісаў: „Божа, тут на зямлі карай, палі, рэж — толькі ў вечнасці будзь міласэрны". Паслухайце, якое цудоўнае прызнанне веры зрабіў філосаф і матэматык Паскаль: „Выцягваю рукі мае да Збаўцы майго, які прыйшоў на свет, каб пакутаваць і памерці за мяне. (...) Накормлены ягонай ласкай спакойна чакаю сваёй смерці ў надзеі, што абʼяднаюся з ім навекі. (...) Адначасова сардэчна прымаю свае пакуты, ведаючы, што яны пасылаюцца для майго дабра і ўласным прыкладам Ён навучыў мяне пераносіць іх".

Шмат людзей звярталася да веры ў цяжкія хвіліны, перад пагрозай смерці, у цяжкай хваробе. Іхны боль і пакуты далі пачатак духоўнаму адраджэнню, сталіся дабрадзействам для іх саміх і для іншых. Вялікі паэт Джон Мільтан напісаў сваю славутую паэму „Страчаны рай" у часе, калі быў цалкам сляпы. Бяда адухатварыла шматлікіх выдатных людзей, перарварыла іх унутрана і прыдала гуманізму ды глыбіні іхным творам. Існуе наогул панацце, што каб напісаць нешта вартаснае, трэба быць нешчаслівым.

„Сіла Божая выяўляецца ў немачы", — гаворыцца ў Святым Пісанні. Там, дзе канчаецца чалавечая моц і самаўпэўненасць, дзейнічаць пачынае Божая сіла. Паасобныя і агульныя пакуты становяцца пасевам вышэйшых каштоўнасцей. Вялікае і трывалае нараджаецца ў болі.

**а. Канстанцін Бандарук**




## „Ярмалковічы"

У 28 нумары „Нівы" ад 9 ліпеня 1995 г. прачытала я артыкул Яўгена Міранoвіча „Ярмалковічы". Вельмі прыгожа ён напісаны, аднак хачу звярнуць увагу на дапушчаныя аўтарам некаторыя недакладнасці.

У артыкуле напісана: „Разам з сынам Аляксандрам выехалі тады ў Біскупец", а ў сапраўднасці выехалі з Андрэем, бо Аляксандра не было яшчэ на свеце. Далей чытаем, што я ў Беласток прыязджала з Андрэем, а гэта быў Аляксандр (Андрэй ужо не жыве).

Зацікаўленні майго мужа Віктара Ярмалковіча гісторыяй не былі „чыста аматарскія", як піша аўтар. Пасля заканчэння Віленскай беларускай гімназіі быў ён студэнтам юрыдычнага факультэта Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільні і атрымаў там добрую метадалагічную падрыхтоўку. Заўсёды карыстаўся гістарычнымі крыніцамі, якія захоўваюцца ў розных архівах і бібліятэках. Яшчэ хачу звярнуць увагу, што Віктар пад некаторымі працамі падпісваўся дзявочым прозвішчам сваёй маці — Станулевіч.

**Аўгіння Ярмалковіч**

Ад аўтара:

Паважаная спадарыня Аўгіння! Ніщто не апраўдае таго факта, што я пераблытаў імёны Вашых сыноў. За дапушчаную памылку шчыра прашу прабачэння.

**Яўген Мірановіч**

# АБʼЯВА

Як кожнага году ў парафіі Благаславёнай Ядвігі вядуцца запісы ўдзельнікаў пілігрымкі „да Гэтай, што ў Вострай свеціць Браме". Паломніцтва будзе працягвацца з 19 да 26 жніўня 1995 г. Пілігрымка прысвячаецца тром мэтам: падзяцы за каранацыю абраза Маці Божай Вастрабрамскай, за адзінства польскага, беларускага і літоўскага народаў, каб забылі мы пра ўсе тыя здарэнні ў мінулым, якія адрозніваюць нас адных ад адных, а кожны паломнік панясе яшчэ сваё жаданне ў сваім сэрцы. Пілігрымка пачнецца святой імшой у Кафедры. Будзе гэта экуменічнае паломніцтва і таму запрашаем людзей усіх веравызнанняў.

Запісы вядуцца ў парафіі Благаславёнай Ядвігі ў кс. Яна Філевіча. Адрас: Беласток, вул. Сланечнікова 8. Можна кантактавацца тэлефанічна — нумар 546-333 (вечарам).

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка XIX**

У сваіх разважаннях аб радзіме мой бацька вельмі часта адклікаўся да супастаўлення патрыятычных пачуццяў беларусаў з патрыятычнымі пачуццямі палякаў і рускіх. Бачыў ён вялікую перавагу, асабліва польскага патрыятызму над патрыятызмам беларускім. Галоўную ролю ва ўтрыманні высокага тонуса польскага патрыятызму быў схільны прыпісваць каталіцкаму духавенству. Прывяду сёння тыя фрагменты бацькавых успамінаў, якія адносіліся да гэтай справы.

„Я табе скажу так, калі я служыў у арміі ў Модліне, то разам са мною служыло пару палякаў. Я ўжо іх пазабываў, а от аднаго то добрэ помню, бо ён служыў у нашуй батарэі. Гэты паляк называўсе Кшыштоф Пшыбыл. То гэтые рускія ніяк не маглі выгаварыць яго імені і назвіска і яго празывалі Кшы-Пшы. Я то там яго ні празываў, бо бачыў, што яму ад гэтаго крыўдна. То гэты Кшыштоф кажды дзень вечарам кленкаў перад ложкам, складаў далоні і маліўсе. Вельмі часто рускія салдаты кідалі ў яго подушкамі або адзеяламі. А ён нічого, відно ў сабе зацінаўсе толькі і маліўсе далей. Мне было яго шкада, бо цярпеў чалавек за нішто. А ў нашуй батарэі то служыў здаравенны сібірак, называўся ён Лесноў. Быў такі сільны, што хватаў за рог шасціпудовы мяшок мукі і адною рукою закідаў на плячо. Але ні быў кепскім чалавекам і сваю сілу да іншых салдат упатрабляў рэдко. То я ему адзін раз гавару: „Барыс, пастрашы салдат, скажы, каб ні крыўдзілі гэтаго паляка". А ён мне кажэ: „Ты, Барщевский, выделяешь повару продукты питания. Поговори с ним, чтобы мне побольше жратвы давал, а то мне мало. Если оформишь это дело, помогу твоему поляку".

А мне там, што было даці із складу крыху больш мукі, кашы чы навэт мяса. То я паабяшчаў кухару, што буду яму даваць крыху больш, каб ён дадатково карміў Леснова. Ну так яно і сталасё. І ты знаеш, после гэтаго, як адзін салдат кінуў у паляка подушкаю, калі той маліўсе, то гэты Лесноў схапіў подушку і разарваў яе ў штументы. І сказаў таму салдату: „Собирай перье и сшивай подушку. Если пиcнешь офицеру, что сделал это я, сверну твою башку. И вот же говорю вам, оставьте поляка в покое и называйте его не Кшы-Пшы а только Кристофор. Если нет, дам по лбу!"

І што ты думаеш? Як рукой адняло. Ніхто больш гэтаго паляка ні крыўдзіў. Мало гэтаго, калі паляк пачаў дзякуваць гэтаму Леснову, то ён сказаў: „Благодари Барщевского, это его заслуга". Ну і после гэтого паляк вельмі ужэ да мяне прыліп і пачаў да мяне ва ўсім звяртацца. І знаеш, што ён мне сказаў? Сказаў, што ў іх, палякаў, то найважнейшы ксёндз-дабрадзей. З усімі справамі яны ідут да ксяндза. А гэты ксёндз то ім радзіт і падказвае як трэбо жыці. І ў вялікай таемніцы сказаў мне, што ксёндз узяў ад іх, ну такую як бы прысягу або такое прырачэне, што хоць яны ідучы ў армію прысягалі вернасць цару то ён з іх гэту прысягу знімае і бярэ ад іх прысягу нову. І вэдлуг гэтае прысягі, калі толькі будзе саздавацца незалежнэ польске войско, то ён разам з усімі салдатамі палякамі павінен уцячы з рускае арміі і пайсці туды, дзе будзе паўставаці польске войско, каб ваяваці за вольну польску айчызну. Ты знаеш як я пачуў гэто, то мне аж страшно зрабіласё, бо мне то тады здавалась, што мы павінны да астатняе крыві біцца за Расею і за цара. Гэто нам ўбівалі ў галовы і афіцэры, і папы. Ну, а кроме гэтаго то гэты Пшыбыл яшчэ адну гісторыю мне расказаў. Значыцца, ён меў у сваёй вёсцы, а паходзіў ён дзесь з-пад Радама, нарачону, катора яму пісала любоўны пісьма. І раптам перастала пісаці. А после яму напісалі бацькі, што гэта дзяўчына ужэ звязалася з іншым кавалерам і таму ні пішэ. Ну то гэты Пшыбыл пашоў у гэтым Модліне да ксяндза і ўсё яму расказаў. І што ты думаеш? Гэты ксёндз паехаў больш як сто вёрст у меснасць, з катораe быў гэты салдат і разам з мясцовым ксяндзом пашоў да тае дзяўчыны і да яе бацькоў і так доўга страшыў іх пякельнымі мукамі, аж яна і яе бацькі паабяшчалі, што яна зноў вернецца да гэтаго Пшыбыла і будзе яму пісаці пісьма. Ну і так яно і сталасё. Пшыбыл выразно акрыяў і павесялеў, бо дзяўчына пачала яму зноў пісаці і ўсё прасіла, каб ёй прабачыў грэшны паступак. Ну то ты глянь, якая ў палякаў дзісціпліна і які вялікі аўтарыцет ксяндзоў. Я то часто аб гэтым думаў і трэбо сказаці, што і да сегодня ні знаю як на гэто глядзеці. У нас то ведомо, што папы аж так у лічнэ жыццё ні ўмешваюцца і мне здаецца, што добрэ робят. Бо што гэто за шчасце, што тую дзяўчыну сілаю прымусілі пісаць пісьма? Але з другога боку то глянь як яны моцно дбалі, каб кожды паляк быў верны сваёй айчызне. І што ты думаеш, дзесь так хібо на пачатку 1917 року, калі мы стаялі пад Брэстам і гэты Пшыбыл і другія салдаты-палякі дазналісе, што дзесь там на тэрыторыі занятуй немцамі саздаюцца польскі легіёны. І пэўнае ночы прапаў з батарэі і Пшыбыл, і другія палякі з палка. Падабралі вельмі ветраную і дажджлівую ноч і ўцяклі. Ты знаеш, што рабіласё ў нас у палку?! Зляцеліся і сышчыкі, і следчыя, і пракуроры, усё шнырылі, хацелі дазнацца як і што. І нічарта ні дазналісе. Я то знаў у чым дзело, але маўчаў і сідзеў ціхо як мыш пад венікам, бо баяўсе што і мяне пасадзяць. Так нічого і ні высачылі. Але ж вядомо, што знаці ў чым дзело. Ведалі, што палякі рванулі праз фронт. Ну то после гэтаго тых палякаў, што яшчэ былі на перадавой, адвялі ў тылавыя палкі. От бачыш, што для палякаў значыт айчызна! А чы ж беларус зрабіў бы такое? Я ніколі пра такое штось ні чуў і ні бачыў. Ну вядомо, што і мы маем родзіну, але каб за яе кроў праліваці, то мы гэтаго яшчэ ні ўмеем. За Расею то пралівалі, але ні за Беларусь".

**Алесь Барскі**

# НЁМАН

Трапіў мне ў рукі вельмі цікавы часопіс „Нёман", які выдаецца ў Беларусі на расейскай мове. Яго 11-ы нумар за 1994 год прысвечаны нашым беластоцкім беларускім пісьменнікам, паэтам, гісторыкам, публіцыстам. У ім апублікаваны важнейшыя творы „белавежцаў" і іншых аўтараў. Ёсць паэзія Надзеі Артымовіч, Яна Чыквіна, Алеся Барскага, Віктара Шведа, проза Сакрата Яновіча і Міры Лукшы. Цешыць, што пачэснае месца займаюць фрагменты цікавай кніжкі галоўнага рэдактара „Нівы", Яўгена Міроновіча, п.з. „Беларусы ў Польшчы 1944—1949". І важнае: у часопісе ёсць здымкі аўтараў і кароткія даведкі пра іх. Вельмі добра, што нашымі пісьменнікамі, паэтамі і гісторыкамі цікавяцца за мяжой.

**Мікалай Панфілюк**

# Машка і Золька

*(быль)*

Жылі Машка ды Золька ў адной вёсцы, што доўгімі кіламетрамі цягнулася хутарамі і прысёлкамі, з цэнтрам з дзвюма вуліцамі-брукаванкамі накрыж. Былі ў вельмі далёкім сваяцтве, недзе ў сёмым ці восьмым пакаленні, але з маленства вадзіліся як родныя сёстры. Маленькую Зольку мучыла лушчыца-залатуха, усе дзеці брыдзіліся ёю, і толькі Машка, дачка бедняка Івана Клімука, не пакідала сваю хворую суседку-аднакласніцу ў бядзе і радасці.

Абедзве нарадзіліся ў канцы верасня 1939 года. З ваеннага часу Золька памятае палаючую клуню, з якой феерверкамі вылятаюць дымна-чырвоныя снапы і бухаюць снарады, сабраныя для партызанаў дзедам Вікентам. Машцы прыгадваецца сырая зямлянка ў цёмным лесе і забінтаваная чырвонай анучай кучаравая галава стогнучага партызана, якога енкі страшна яе палохалі. На папялішчы вёскі, пароспыя палыном і чарнобылем, жыхары вярнуліся ў сорак чацвёртым. Хаты ставілі ўжо большыя, з дубальтовымі вокнамі, дахі крылі дранiцай. З амаль гатовага дома, завяршаючы шчыт бярозкай, зваліўся Зольчын бацька, Сцяпан Зубрынскі, паламаў абедзве ногі. Крыва яму зрасліся, і потым чыкілдаў ён па хаце ды панадворку, не прыносячы вялікай карысці ў гаспадарцы. От, парады толькі даваў ды распараджэнні, стругаў нешта сцізорыкам у драўніне, бульбу перабіраў навесну... Ад пояса — Сцяпан мужык як мужык, плячысты, дужы, а ногі — як асінавыя калочкі. З часам і плечы моц страцілі. Добра, што ўдалося атрымаць яму пасаду „кулкавага" „дыспазітара" машын. Праўда, гэта было ўжо пры Гамулцы, а тады, пасля таго ўпадку, забралі Сцяпана ў турму — на тры гады прысудзілі яго за крадзеныя дылі. Не ён краў, а брат ягоны Васіль; той накраў сабе на цэлы дом, Сцяпану даў шэсць бэлек. Узяў на сябе віну калека. Выйшаў не чалавек, а цень. Малая Золька з маткай падалі з сіл, аралі, сеялі, збіралі, не азіраючыся на іншых. Праўда, Васіль адчуваў сябе ў даўгу, дапамагаў братавой. Людзям Гандзя адраблялa за дапамогу, Золечка таксама бегала па суседзях, працавала — то серпікам жала, то палола, то снапкі вязала... Людзі з іхняй вёскі не падаліся ў калгас, як у суседняй, і з нейкай зайздрасцю пазіралі то на жняярку, то на трактар з плугамі, але больш было ўсмешак: вось паглядзіце, колькі ўсяго марнуецца, колькі каласоў паламаных, колькі зерня асыпаецца, колькі агрэхаў у жыце! Праз гадоў дзесяць сарганізавалі ў сябе „ральнічае кулка"; пабыло яно ў іх руках, і стала фірмай дзяржаўнай. Сцяпана выбралі дыспетчарам машын. Так, самі выбралі яго, дбайнага гаспадара, хоць „парція" выказалася ясна: „вораг народа", сын „ворага народа" — багацея-крамніка, злодзей народнай маёмасці! Найбольш супраціўляўся Іван Клімук — ён та і данёс быў на пастарунак, што бэлькі ў доме Зубрынскіх — з пушчы, нецэхаваныя. Сам Клімук і цяпер, хоць надзяліла яго народная ўлада ладным кавалкам урадлівае зямлі, голы сядзеў, перабіваўся з бульбы на квас. Ну, не наракаў і не плакаў, што чамусьці не так яму ўсё расце, — жыў ды напіваў, са „спортам" вечна прыклееным да вусноў, і толькі дзеці ў яго не зводзіліся, жонка на трэску высахла. Ну і што, што бедны Іван, але на дзяцей проста не наглядзецца! А гляньце на Зольку Сцяпанаву — яно лушпіння з яе лезе, каравая такая, а кормяць яе адно жаўткамі, малаком і мёдам, ды ўсё такая нягеглая! І адна ў бацькоў, і з багатай сям'і, а хто возьме такую брыдоту, хоць і з пасагам?..

Праўда, гідзіліся вучні Золькі. На перапынках стараліся навет не дакрануцца, хоць частавала бутэрбродамі з мясам, а ў іх быў толькі хлеб з салам ці соллю. Неахвотна сядалі вучні з Золькай за партай, але дзяўчынка вучылася добра і давала „сцягваць" на кантрольных; было выгадна мець яе за суседку. Колькі паперак і перажаваных прамочак ды гумак ляцела на яе кучаравую галаву! Колькі непрыемных слоў яна пачула! „Золька-сролька-кабадолька! Лупіна! Цыбуліна! Рак!" Не дапамагалі нават папрокі пастаўнікаў. Але і пані Гражына, якая правярала, ці няма вошай у галовах вучняў, разгортвала Зольчыны валасы, трымаючы ў пальцах прамочкі-бібулкі і хутка пасля бегла на калідор, памыць рукі ў „куточку чысціні". Толькі Машка Клімучанка старалася не рабіць прыкрасцей сяброўцы. Дзеці і дарослыя меркавалі, што, пэўна, таму, каб бываць у Сцяпанавых ды добра наесціся. Але ж яе бацька, Іван Клімук, усім і ўсюды даказваў, што Сцяпан Зубрынскі — паганы „кулак" з кораня (ад Клімука да самай смерці ў 1981 годзе не адчапілася „рэвалюцыйная" фразеалогія), а як „дыспазітар" кулкавых машын ён „абсалютна не на месцы"; хто з ім вып'е, казаў Іван, таму трактар ці жняярку Сцяпан дасць. Найлепш, браткове, значыць, касіць касою і не лезці да Сцяпана ў кішэню...

Калі Золька пайшла вучыцца ў ліцэй, пацягнулася за ёю ў горад і Машка. Клімук грошай шкадаваў на адукацыю дачцэ, бо іх у яго і не было, а хоць „навука дармовая", усё ж каштуе. „Хочаш вучыцца — вучыся за сваё", — сказаў бацька Машцы. Дзяўчына працавала, вучылася вечарамі ў тэхнікуме, жыла разам з Золькай у пакойчыку нанятым у хатцы на прадмесці. Золька пасля ліцэя пайшла ў сталічны універсітэт, Машка асталася ў Гайнаўцы...

Спачатку часта сабе пісалі, зрэдку сустракаліся. Пасля некалькіх гадоў іхняе сяброўства „разлілося".

Сустрэліся ў чэрвені 1995 года, у Беластоку. Абедзве ўжо на пенсіі — былая настаўніца пані Зося і рэнцістка з прычыны хваробы вачэй пані Марыся, выдатная краўчыха. Так іх цяпер завуць. У Зolькі двое дзяцей, сын Адам і дачка Ганя, абое за мяжой, у бацькі, у Амерыцы; кажа, добра жывуць. Дачка Машчына, Зоська, у Італіі, выйшла замуж за пажылога ювеліра, разводніка, выхоўвае яго сына. Сын Зютак працуе інжынерам, толькі нядаўна паканчаў школы, дактарат рабіў па пабудове дарог і мастоў; і ён думае з'ехаць за мяжу, бо тут няма за што сабе хату купіць, і зарабіць траха трэба, каб сям'ю ўтрымаць па-людску.

Сустрэліся на аўтобусным вакзале ў Беластоку. Ехалі ў сваю вёску, над возера. Там у кожнае з іх — бацькаўшчына. У Машкі — хатка пустая, абое бацькі памерлі. Думала ўсё ўзяць ды прадаць, але дзеці пераканалі, што не варта, зямля ж не згарыць, не скісне, не папсуецца. Можа, прыйдзецца вярнуцца Зютку?.. Усе Машчыны браты і сёстры — колькі іх было, васьмёра? — разбегліся па свеце і знаку якога жыцця не даюць. Зольчын бацька Сцяпан таксама памёр, кажуць, ад нуды — пасля смерці Гандзі ў 1979 годзе моцна расхварэўся на сэрца. Хацела Золька забраць яго да сябе ў Варшаву, але Сцяпан і не думаў пакідаць свой дом. Прыходзіла да яго „сястра ПЦК", рабіла ўсё ў хаце. Меў добрую пенсію, шмат прысылала дачка, хапала, каб добра і спакойна жыць. Памёр Сцяпан ціха, як і жыў у апошнія гады.

Паехалі разам Золька з Машкай у сваю вёску. Зайшлі ў пусты Сцяпанаў дом. З добрага дрэва пастаўлены, моцны, стаіць ён як стаяў.

— То што, Машка, давай тут разам пажывем? Нарэшце пагаворым уволю. Варшава і Беласток могуць нас пачакаць.

**Міра Лукша**

## ПАРНАС
чытальніцкая літсупольна на негарантаваных паях

### САКРАТ ЯНОВІЧ

Сакрат Яновіч піша асабліва,
З філасофіяй, жыва.
Яго творы —
Глыбіня мора.
Яго вока ўсё бачыць,
Розум разважыць.
Што для нас закрыта,
Яму шырока адкрыта.
Ён не прапусціць нічога
Ідучы няроўнай дарогай.
Мае талент невычарпальны
Сакрат ніколі не банальны.
Роўны з Маравіяй Альбертам,
І з Хемінгуэем Эрнестам,
І з Бабелем Ісаакам —
Мае класікаў прызнакі,
Свой літаратурны стыль,
Сюжэтам іх легенда і быль.
Яновіч стаў цвёрдым Сакратам,
Родным беларускім братам.
Празаік, публіцыст, палітык —
Так, менавіта, рыхтык!
Такім ёсць наш паважаны
Сакрат стальны, а не саламяны.
У эфіры гучаць яго рэчы
І рэжуць як мечы,
Праўду адкрываюць,
Беларусаў праслаўляюць.
Аддаўся гэтай рабоце
Па праўдзе, не па модзе.
І мне ён — беларускі Дастаеўскі,
А ў гераізме — Аляксандр Неўскі.
Яго „Загоны"
Гучаць як звоны
Праўдзівай мелодыяй,
Ніколі не пародыяй.
„Сярэбраны яздок" —
Гэта не папрок.
„Кастусь Каліноўскі"
Надалей геройскі.
„Самасей" —
Праўду сей
Аб сваім народзе —
Будзеш у свабодзе!
„Вялікі горад Беласток" —
Усе нязгоды адкінем на бок.
„Сцяна" нас не раздзеліць —
Тое што трэба адмерыць.
„Малыя дні"
Геройства нам далі.
Вялікія творы Сакрата —
Беларуса, сапраўднага брата.
Каб Яновіча зразумець
Трэба нешта ў сэрцы мець:
Жменьку роднай зямліцы
Перамалоць у мельніцы —
І будзе хлеб
Для сваіх патрэб;
Каб жыць нам дружна
І браць перашкоды мужна.

**Мікалай Панфілюк**

## Гогаль

Вясною на возерах Варміі і Мазураў можна сустрэць цікавую качку — гогаля. Самца лёгка пазнаць ужо здалёк па белай пляме на шчоках. Мае ён таксама снежна-белыя бакі і перад; толькі галава, хрыбет і хвост цёмныя. Апярэнне самкі менш каляровае: ніжняя частка шыі белая, а рэшта пер'яў мае розныя адценні бронзы. Калі ляціць, відаць белыя люстэркі на крылах. Палёт дарослых самцоў суправаджаецца свістам, па якім можна іх пачуць здалёк. У адрозненне ад іншых відаў качак, якія ўюць гнёзды на падмоклых лугах ды астраўках, гогалі гняздуюцца ў дуплах дрэў, якія часам знаходзяцца і 10 метраў над зямлёю. Такое, дзіўнае для качак, месца гнездавання прыводзіць да таго, што гогалі цікавяцца перад усім вадаёмамі, якія распалажаны ў лесе багатым старымі дрэвамі. Птушкі гэтыя з'яўляюцца аднымі з першых веснуноў вясны. Калі толькі на вадзе паявяцца крыгі лёду, паяўляюцца і яны. Адразу пачынаюцца токі. Бывае, што да адной самкі заляцаецца і па трох самцоў. Пасля токаў самка шукае дупла. Дупло гэтае мусіць мець каля 45 см глыбіні, а ўваход не меншы, чым 10 см у дыяметры. Натуральных дуплаў нямнога і таму самка часта выбірае дуплы, выдзяўбаныя дзятлам. Калі паблізу вадаёма няма адпаведнага дупла, гогалі шукаюць яго нават у адлегласці 2 км ад вады. У дупле самка адкладвае ад 6 да 11 яек. Бывае і так, што ў адным гняздзе кладуць яйкі і па дзве самкі. Лік яек можа тады дайсці і да 20 і, вядома, што не з усіх выйдуць маладыя. Самка абкладвае яйкі пухам і пасля месяца выседжвання вылупліваюцца маладыя. Калі качаняты абсохнуць, чакае іх сапраўдны скок у жыццё. Маці іх вылятае навонкі і далікатным голасам заахвочвае малых пакінуць дупло. Кожнае з іх мусіць ускарабкацца па вертыкальнай сцяне, у чым яму памагаюць доўгія і закрунутыя кіпцюрыкі, а пасля выскачыць на зямлю. Густы пух амартызуе ўдар ад упадку. Потым маці вядзе малышоў да вады. Калі вадаём далёка, дарога гэтая тады цяжкая і небяспечная. Гагаляты хутка вучацца самастойна здабываць харчы і хутка растуць. Кормяцца яны дробнай вадзяной звярынай, насякомымі, лічынкамі, смаўжамі. Поўнасцю самастойнымі становяцца пасля 6 тыдняў, а ў паветра падымаюцца пасля 8 тыдняў. Ад 1 красавіка г.г. гогаль узяты пад гатунковую ахову.

**Андрэй Гаўрылюк**

## З нашага жыцця
### (гісторыі нясмешныя)

Міркава нарачоная з'ехала ў Амерыку і рашыла больш не вяртацца на радзіму. Хлопец доўга сумаваў за сваёй Анэтай. Нават труціцца збіраўся. Бацькі ледзь угаварылі, каб перастаў думаць аб гэтай дзяўчыне.

Пазнаёміўся з Ганнай. Пабраліся. Здавалася, на Анэту забыўся, але ж у сэрцы засталася. Аднойчы прыйшоў Мірэк дахаты, а тут жонка месіць цеста на пірог.

— Добрая з цябе жонка, Ганутя, але калі б наша вяселле мела быць у нядзелю, а Анэта вярнулася ў суботу, то яго не было б. Я яе ўсё кахаю...

Узлавалася жонка, кінула міску з цестам на падлогу і выйшла з кухні. А Мірэк толькі ўздыхнуў.

* * *

Калі Павел і Паўліна пажаніліся дзяцей, дома пачаліся сваркі. Муж дакараў старую, што носіцца па-вясковаму, а ў горадзе кабетам трэба модна прычасацца і апрануцца.

— Ты чаго ўчапіўся?! Пражылі разам дваццаць восем гадоў. Ты — вартаўнік, я — гаспадыня ў хаце. А тут табе штосьці перастала падабацца?!

— Ат! — махнуў рукою Павел. — Дай Божа, каб я цябе не застаў дома, калі вярнуся з працы.

— А каб ты, дай Божа, увогуле не вярнуўся, — пажадала Паўліна.

* * *

Чатырохгадовы Мар'юш усё прасіў маму і бабулю, каб далі грошай на жавачку.

— Хопіць ужо сёння! Кожны дзень жаваць пару гумаў, ці ж гэта не замнога? — запярэчыла баба. — Я грошай з сабою не ўзяла.

— А сёння прадаўшчыца Галіна наказвала, каб вы прыйшлі да яе ў краму. Яе сястра прыехала з Аўстраліі, прывезла цікавыя рэчы. Можа, купіш сабе нешта? Толькі грошы вазьмі.

Маці схапіла кашалёк і пабегла ў краму, малы за ёю. Вядома, ніякіх аўстралійскіх навінак не было. Маці няёмка было ляяць малога пры чужых. Купіла яму жавачак. Яшчэ раз малеча ўзяў сваё.

**Аўрора**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца, што я вярнулася з крамы. Бачу, дзверы ў хату адчыненыя. Я спужалася, бо ж выходзячы, я хату замыкала. Уваходжу, а ў пакоі на суфіце і на шпалерах намаляваны нейкія ўзоры фіялетавага колеру. У калідоры стаіць жанчына і кажа: „Во хацела ўпрыгожыць хату і спаскудзіла". Я кажу: „Адчапіся баба". Думаю, пайду да суседзяў, спытаю, мо яны што ведаюць у гэтай справе.

У суседзяў папярэдняга дня былі хрэсьбіны. Там жывуць двое — муж і жонка, пенсіянеры. Выхоўваюць двух хлопцаў. Дачка, маці тых хлопцаў, у Амерыцы. Я не была на хрэсьбінах. У хаце ні гаспадароў, ні дзяцей няма. Нейкая чужая жанчына ў пярэдняй стаіць. У пакоі поўна маладых хлопцаў. Спяць на падлозе, як папала. Да таго апранутыя ў камбінезонах, шапках (чорнага і цёмна-сіняга колераў), у абутку. Я паглядзела, што ўсе чужыя ў хаце, думаю, няма з кім гаварыць, і выйшла.

**Кацярына**

Кацярына! Твой сон крыху дзіўны. Ні то датычыць цябе, ні то суседзяў, да якіх ты пайшла. Я думаю, што ўсё ж гэта ты павінна асцерагацца ўтраты самастойнасці. Нехта хоча цябе пазбавіць незалежнасці. Сама бачыш, ты выйшла ў краму, а нехта ў той час адчыніў твае дзверы. А нейкая жанчына без твайго дазволу размалявала твае сцены ў фіялетавыя ўзоры.

Але найбольш пра гэта ж сведчыць тое, што ў хаце суседзяў, да якіх ты зайшла, было поўна чужых, незнаёмых хлопцаў, а іх у хаце не навылет.

Сапраўды, нехта хоча пазбавіць цябе незалежнасці.

**Астрон**

## Прыдарожныя разваліны

Прыдарожныя пачакальні... Часта даводзіцца нам чакаць на „свой" аўтобус ПКС і пад гэтымі „парасонамі" маем дзе схавацца ад навальнічнага ліўня ўлетку або ад снежнай мяцеліцы ўзімку. Ці ўсе мы дбайна ставімся да іх? А ўжо асабліва нецвярозая — такая ж бывае, ой, бывае — старэйшая моладзь, якая падвыпіўшы выбіраецца на вячэрнія музыкі ў суседнюю вёску або ў бліжэйшы горад.

Прыклады? Калі ласка, вось яны. Едучы з Васількава ў Саколку ўбачым пабітае лёгкае ды празрыстае шкло ў сценах пачакальні ў Гараднянцы, а ў Мачальні і ў Пад'яноўшчыне — шыферныя пліты дашкаў. Дзіву тады даешся, каму перашкаджаюць лёгкія пліты над галавой? На неба можна ж паглядзець ступіўшы пару крокаў з-пад дашка. За сцэнку можна таксама выйсці, а не напорыста і бяссэнсна прабіваць яе навылет.

Вось таму і якраз з-за гэтага — і тут ужо не трэба здзіўляцца-дзівавацца — едзем аўтобусам ПКС і на прыпынках часта ды густа бачым замест лёганькіх дашкоў бетонныя пачакальні-бункеры. Трэба ж так?..

**Янка Падарожны**

## ВІРАВАНКА

1. драпежная птушка, 2. выдатны агульнавядомы пісьменнік, 3. горад над Шчарай, 4. цыбульная расліна з белымі або чырвонымі кветкамі, 5. парабак, 6. японскае адзенне, 7. доўгая прыўзнятая прамова, 8. крывасосная паўднёвае насякомае, 9. ткацкі станок, 10. лясная пеўчая птушка, 11. чорны мінерал у алоўку.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць рызыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 23 н-ра:**

**Гарызантальна:** Адын, тайга, апарат, хрэн, верас, дарога, сакатуха, Кабул, дзяўчына, кадэнцыя, ібісы, сноўніца, каркас, Алтай, Анты, масляк, адпор, араб.

**Вертыкальна:** палена, Ігуасу, дармаеды, нанду, Матра, чарга, саланіна, ахоўніца, кока, бяда, Чылі, чары, зярнятка, балада, Сварог, захад, скула, Осака.


**Ніва**

"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцыляры), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1995 r. upływa 20 sierpnia 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 7,00 zł (70 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 15,40 złotych (150 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

# НІЎКА

## КОЖНЫ, НЕХТА, АБЫ-ХТО І НІХТО

Чатырох адказных працавалі,
А людзі па імені іх звалі:
Кожны, Нехта, Абы-хто і Ніхто.
І сталася, як на бяду, вось што:

Пільная работа іх чакала
І Кожны быў пэўны, як бывала,
Што работу Нехта зробіць на час
І Кожны будзе удзячны для нас.

Аднак Ніхто работы не зрабіў,
Кожны заняты быў, недзе хадзіў, —
Дзе хадзіў Кожны, Ніхто не знае
І Ніхто нікога не пытае.

Таму вось Нехта моцна зазлаваў
І Кожны слухаў, як жа ён крычаў:
— Чаму работу не зрабіў Ніхто?
Калі зрабіць яе мог Абы-хто!

Ю. В-скі

## СЕНТЭНЦЫІ

Чакай світання, ноч з'явіцца сама.

* * *

Калі маўчыш, чуе цябе свет.

* * *

Не думай, жыві.

* * *

Калі даеш, то з сэрца —
звернецца двухкратна.

* * *

Калі верыш, вер разумна,
бо розум ад Бога.

Барыс Руско



Мал. П. Козіча

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" з альбома Андрэя Гаўрылюка

Пачатак 50-х гадоў. Абітурыент ВНУ стараецца на працу ў адным з маскоўскіх заводаў. Кадравік распытвае:
— Хто такі ваш бацька?
— Мой бацька — Іосіф Сталін, бацька ўсіх савецкіх людзей.
— А ваша маці?
— Мая маці — Савецкая Радзіма.
— А кім хацелі б вы стаць?
— Круглай сіратою.

* * *

Размаўляюць двух новых пацыентаў санаторыі:
— Што б вы зрабілі, калі б выйгралі 100 тысяч злотаў?
— Паехаў бы на экскурсію ў Савецкі Саюз.
— А калі б выйгралі 250 тысяч?
— Таксама паехаў бы на экскурсію ў Савецкі Саюз.
— А калі б быў гэта мільён злотаў?
— Таксама паехаў бы ў Савецкі Саюз.
— Дык што, не ведаеце вы пра іншыя краіны?
— Ведаю, толькі пра вас нічога не ведаю.

* * *

У міністэрства сувязі з'явіўся кантроль, каб выявіць віноўніка таго факта, што паштовыя маркі з выявамі дзяржаўных саноўнікаў не хочуць прыклейвацца да канвертаў. Пасля месячных доследаў якаснасці паперы і клею, кантроль вынес прыгавор, што маркі ў парадку, толькі карэспандэнты плююць на іх не на той што трэба бок.

* * *

Перад будынкам ЦК стаіць жабрак з выцягнутаю рукою. Убачыў яго Ярузельскі:
— Тут нельга жабраваць, ідзіце пад касцёл.
— Не выпадае. Я — партыйны.

* * *

— Чаму Ярузельскі ў Польшчы паказваецца толькі ў мундзіры, а калі едзе ў Маскву, апранае касцюм?
— Ён у Польшчы прабывае службова.

* * *

Над Эльбаю сустракаюцца салдаты двух пераможных армій, Саша і Джон. Размова ідзе пра найважнейшую для салдат рэч — ежу.
— Нас кормяць вельмі добра, — кажа Джон, — штодзень дастаем па 30 тысяч калорый.
Саша глядзіць з недаверам:
— Гэта немагчыма. Ніводзін салдат не з'есць 50 кілаграмаў бульбы за адзін дзень.

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Знерваваўся я. Як гэта сёння ёсць, скажы мне?! Усе вы, тыя, што пішаце пра гэтыя справы, быццам бы прынялі да ведама, што дзяўчына, якая ідзе замуж, ужо даўно ўсё ведае, ого, больш таго, сорам бы быў на ўсю ваколіцу, каб была яшчэ дзеўкай, стоячы пад вянцом.

Прыкра і сумна з тае прычыны, што дзяўчаты няраз абы-як выпадкова аддаюць сваё дзявоцтва, можна сказаць, першаму сустрэчнаму. Абы не быць дзеўкай, бо што гэта яна найгоршая?!!

Ну, яшчэ магу зразумець, калі дзяўчына аддаецца хлопцу з вялікага кахання. Невядома, як будзе ў іх далей, але прынамсі яна верыць, што ён — адзіны на ўсё жыццё. Аднак тое, што дзеецца ў школах (асабліва ў старэйшых класах), а што ўжо гаварыць пра вышэйшыя школы, пераходзіць усякае ўяўленне пра секс.

Бог даў мне дзве ўнучкі, цудоўныя дзяўчыны, а я не магу знайсці спакою, думаючы пра іх будучыню. Тая дзяўчынка, што ў восьмым класе, расказвала мне калісь пра прыватку, якую зрабіла адна з сяброўак, калі не было бацькоў. Усё рабілі, як дарослыя, віно і гарэлку пілі, а пасля парачкі паразыходзіліся па кутках, дзе рабілі, што хацелі. Нават і кухню выкарысталі дзеля гэтага.

Во калісь дык было зусім інакш. Калі браў хтось дзяўчыну замуж, дык мусіла яна быць чыстая. Калі страціла сваё дзявоцтва перад шлюбам, дык, не давядзі Божа, каб хто пра гэта даведаўся. А сёння мама, выпраўляючы дачушку на адпачынак з хлопцам і палаткай, у якой яны будуць жыць дзесьці ў лесе ці над возерам, купляе ёй на дарогу прэзерватывы. Ні сораму, ні гонару. Нібы ўсё для людзей, але ж нейкія межы павінны быць захаваныя.

Што ж тады застаецца гэтым людзям пасля шлюбу?! Пялёнкі, кухня, крык па хаце... Так, так — нічога іншага. Бо найчасцей жа сёння жэняцца, калі дзяўчына ўжо цяжарная. Часта бачым у царкве такую, што здаецца, вось-вось ужо рассыплецца, а вянок — на галаве. Бадай, людзі забыліся, што белы вянок абазначае нявіннасць. Вось мы з жонкай, не так даўно былі на вяселлі ў знаёмых, што жаніў сына. Ну, запрасіў я на танец маладуху, думаў, зраблю прыемнасць колішняму сябру, ды затанцую з яго нявесткай. Узяў я яе, прыціснуў мацней, а тут мне нешта ў жывот — бабах! А гэта яе дзіця сваёй ножкай так стукнула. А я ж нават і не падумаў. Праўда, была яна нейкая паўнаватая, ды і сукенка была свабодная, але ж цяпер такія модныя... Толькі тады я скумекаў, чаму яна ў царкве ўвесь час кветкі на жываце трымала.

Не, не гадзіцца гэтак. Не хачу, каб мае ўнучкі ішлі пад вянец з жыватом. Аднак яшчэ больш агідна аддавацца без пачуцця абы-каму. Стары ўжо я, але ніяк зразумець гэтага не магу. Рабіць са свайго цела прадмет! А дзе душа?

Калісьці, у мае часы, дзяўчына сваё дзявоцтва шанавала. Умела данесці яго аж да замужжа. Іншая справа мужчына. Ён мусіў усё ж мець такі-сякі вопыт. І я лічу, што зусім добра, калі вопытны мужчына жэніцца з маладзенькай, нявіннай дзяўчынай. Ох! Мужчыну нават не выпадала б нічога не ўмець. Трэба ведаць, як падысці да дзяўчыны, як зрабіць ёй прыемнасць, ну, і як прывязаць яе да сябе. У мае часы мужчына штосьці значыў! А сёння ўсё абы-якое...

Андрэй

Андрэй! Кожная эпоха нясе сваё, але часы маладосці заўсёды здаюцца найцудоўнейшымі. Іншая справа, што сённяшнія часы больш справядлівыя, бо і прынеслі раўнапраўе мужчыну і жанчыне. Тое, што даравалася калісь толькі мужчыну, даруецца сёння і жанчыне. Твае сумныя рэфлексіі звязаны, бадай, з тым, што ў цябе якраз унучкі. Іншая справа, калі б гэта былі хлопцы! Яны могуць быць „нячыстыя". А ўжо дзядуля павучыў бы іх, як і што. Павінны яны мець „вопыт"!

Цікава толькі, даражэнькі дзядуля, а з кім здабывалі вы, мужчыны, свой так званы вопыт, калі дзяўчаты мелі даносіць сваю нявіннасць да вяселля?!!

СЭРЦАЙКА

*Сцяпан Абух*

## З запісаў нацыяналіста

### 15. Дубко, Пукша, „Бадзяга"

Лірнік Дубко не ўважаў, што Кукша Пукша мае пісьменніцкі талент, хоць тая апошняя праз год часу змагла натварыць толькі, колькі гэтаму першаму адно памарыць за ўсё жыццё. Пукша выконвала некаторыя функцыі ў Творчым руху „Любасная вяршыня", але ніводзін ейны твор, за справай Лірніка Дубко, не трапіў пад шыльду „Вяршыні". Выглядала гэта абсалютна невыносна — „Любасная вяршыня" саромелася Кукшы Пукшы. Але Лірнік Дубко адначасна і зайздросціў Пукшы — усе дваццаць чатыры творы Пукшы дачакаліся сваіх рэцэнзій у Замбара пакуль яшчэ не абсохла на іх друкарская фарба з ЗОНДРУКа. Рэцэнзіі на Пукшыну творчасць з'явіліся, між іншым, і на старонках элітарнага „Замбара Модзерн Сірылік Раўю" (*англ.:* Zambaro Modern Cyrillic Review).

Лірнік Дубко знайшоў аднак простае выйсце з гэтай непрыемнай для сябе, як прэзідэнта, сітуацыі — па-першае: забараніў друкаваць Кукшу Пукшу пад шыльдай „Вяршыні", прымаючы ў дачыненні да яе вострыя фінансавыя меры, а па-другое: дзеля забеспячэння сваёй творчасці ў крытычную надбудову сцягнуў з Любагорска ў Зону Святую Калькуту, кажучы свайм калегам-вяршыннікам, што якраз Калькута мае быць крытычным вокам „Любаснай вяршыні", а мабыць і ўсёй Зоны. Святая Калькута аўтарытэтна заявіла, што Кукша Пукша пісьменніцай не з'яўляецца. Услед за такой заявай пайшлі слёзы, істэрыка, спроба самагубства... На Лірніку Дубко ўражання гэта не зрабіла — быў ён непранікнёны.

З аднаго боку жыццё Лірніка Дубко — адна паэзія, а з другога — умеў ён перакласці эстэтычную вартасць, творчы працэс і натхнёнасць на катэгорыі чыстай камерцыі або простага бізнесу...

З выпадку выхаду на мове Зоны „Бадзягі" замбарскага класіка нашага стагоддзя Мбабоны Кылябвы Мікабы Чэйза, у рэсурсах „Любаснай вяршыні" валялася якіхсьці, як сёння сцвярджаюць вяршыннікі, сто пятнаццаць мільёнаў свабодных палюбоўнікаў. (Валяліся яны, бо транслятар „Бадзягі", няварты ўвагі вяршыннік-пачатковец, не ўмеў арганізаваць як след свайго *творчага працэсу.)* Чыстых бланкаў, падпісаных Квікам Фінляндцам, у Лірніка было пад дастаткам. „Бадзяга" аказаўся аднак быць цалкам па-за *творчым працэсам* Лірніка Дубко — што ні казаць: маленькае ўскладненне. Прыйшлося дзейнічаць на парашутніцкі стыль. Ноччу, без асаблівай цяжкасці, Лірнік дабраўся да збудаванняў ЗОНДРУКа. Знакаміта прыробленым ключыкам адчыніў дзверы ў склад, не пакідаючы нават і адной рыскі. Асвятляючы дарогу шпіёнскім ліхтарыкам, Лірнік знайшоў сырыя яшчэ экземпляры „Бадзягі". Дастаўшы з-за пазухі адмысловую машынку, Лірнік пераштэмпляваў кожную штуку: *Выданне магчымае дзякуючы знятужлівай намозе і выключнай ангажаванасці Лірніка Дубко.* І гэта было практычна ўсё. Вяртаючыся з начнога рэйду, Лірнік яшчэ ўявіў сабе, што раніцай пашле ў ЗОНДРУК Святую Калькуту.

— Хіба ведаеце як цяжка Лірнічак напрацаваўся над гэтым выданнем, — пагрозліва запытае яна, — ну то памятайце! Шыш вы ўбачыце, а не палюбоўнікі, калі нешта яму тут змяньдзіце...

І яшчэ замахае кулаком на развітанне...

Месца Квіка Фінляндца ў „Любаснай вяршыні", які паклаў галаву за чыстыя бланкі, заняла Кукша Пукша, але не змяніла гэта ні ейнага статуса, як пісьменніцы, ні Лірніковага *творчага працэсу.*